# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

30 траўня 1924 г. № 5. Арт. 158—191.



## ЗЬМЕСТ

# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**158.** **Аб дакладным апісаньні дзяржаўнага сьцягу Саюзу ССР.**

На падставе арт. 71 Конституцыі Саюзу ССР, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту **пастанаўляе:**

Абвясьціць наступнае дакладнае апісаньне дзяржаўнага сьцягу Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Сьцяг чырвоны (або ірзелявы) простакутны, адносіны даўжыні да шырыні, як 2:1. Угары у левым кутку залатыя серп і молат радыусам у $\frac{1}{8}$ шырыні сьцягу; над сярпом і молатам чырвоная пяцёхкантовая зорка, абведзеная залатым шлякам; прамер зоркі ровен $\frac{1}{10}$ шырыні сьцягу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 92 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 20 красавіка 1924 г.

---

**159.** **Аб дазваленьні на першапачатковую аплату біржавых умоваў гэрбавым зборам і на другі дзень пасьля іх утварэньня.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Артыкул 10 статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору, зацьверджанага 17 жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 5, арт. 114) дапоўніць увагаю 4.

„Увага 4. Утварэньне на біржы умоваў падлягае аплаце гэрбавым зборам не пазьней як на другі за іх утварэньнем рабочы дзень".

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 92 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 20 красавіка 1924 г.

---

**160.** **Аб выключэньні Чалябінскіх капальняў з сьпісу прадпрыемстваў, якія маюць агульнасаюзную вартасьць.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Выключыць Чалябінскія капальні з сьпісу прадпрыемстваў, якія маюць агульнасаюзную вартасьць.

**2.** Даць эканамічнай нарадзе РСФСР вызначыць парадак далейшага кіраваньня памянёным у арт. 1 прадпрыемствам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 92 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 20 красавіка 1924 г.

---

**161.** **Аб увядзеньні агульнага падатковага укладу на тэрыторыі Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Увясьці у дзейнасьць з 1 красавіка 1924 г. у Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспубліцы з вынятками, паказанымі у далейшых артыкулах гэтае пастановы, усе ўстаноўленыя дзеля усей тэрыторыі Саюзу ССР законы аб дзяржаўных і мясцовых падатках, зборах і мытах, з ужываньнем выданых народным камісарыятам грашовых Справаў Саюзу ССР інструкцыяў і правілаў аб ажыцьцяўленьні памянёных законаў.

**2.** Устанавіць, як вынятак з арт. 5 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку ад 12 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 11, арт. 317), абкладаньне рабочых і служачых (катэгорыя „А"), пачынаючы з сумы заработкаў не у 75 руб., а у 100 руб. у месяц.

**3.** Захаваць ужываемыя у Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспубліцы зьніжаныя стаўкі акцызу на гэткія ужываемыя у межах Закаўкаскае Соцыялічстычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі рэчы:

А. На вінаградныя віна з вядра:
а) моцнасьць да 14 градусаў . — 64 к. (у чырв. выліч.).
б) моцнасьць звыш 14 градусаў, але ня больш. 20 град., а гэтак сама дэсэртныя і разынковыя . . . . . . . 3 р. 20 „ „ „ „
Б. На сьпірт з градусу:
а) фруктова-вінаградны . . — 2 „ „ „ „
б) каньячны . . . . . . — 5 „ „ „ „
В. Дадатковы акцыз з каньяку з вядра . . . . . . 6 „ 60 „ „ „ „
Г. На кухенную соль з пуду . — 10 „ „ „ „
або з 100 кілёграмаў . . . . — 61 „ „ „ „
Д. На газу з пуду . . . . — 40 „ „ „ „
або з 100 кілёграмаў . . . 2 „ 44 „ „ „ „

**4.** Устанавіць акцыз на гарбату мясцовага узросту, як пры выпуску дзеля мясцовага ужываньня у ЗСФСР, гэтак і пры вывазе у іншыя саюзныя савецкія рэспублікі у вялічыні:

з фунту . . . . . . . . . 20 к. (у чырв. выліч.)
або з кілёграму . . . . . 49 „ „ „ „

**5.** Устанавіць гэткі парадак аплаты акцызаў з рэчаў, прывожваемых у ЗСФСР і вывожваемых з яе:

а) паступленьні па акцызам з рэчаў, прывожваемых на падстаўныя склады у ЗСФСР, ідуць у прыбытак ЗСФСР;

б) паступленьні па акцызам з рэчаў. вывожваемых на падстаўныя склады у ЗСФСР, йдуць у агульнасаюзны прыбытак.

**6.** Працягнуць да 1 кастрычніку 1924 г. залічэньне у карысьць Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі паступленьняў мытаў і збораў з грузаў, якія прапушчаюць прыкардонныя мытніцы Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі, захаваўшы у моцы да паказанага тэрміну пастанову Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 11 сакавіка 1924 г. аб парадку забясьпекі паступленьня памянёных мытаў і збораў у карысьць Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі [1]).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 92 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 20 красавіка 1924 г.

---

## 162. Аб зьдзейсьненьні палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Зьдзейсьніць на усей тэрыторыі Саюзу ССР, пачынаючы з 1924—1925 году, зацьверджанае гэтага чысла палажэньне аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

**2.** Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР падаць на працягу двух тыдняў у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР сьпіс законаў, страчваючых моц пасьля зьдзейсьненьня новага палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 101 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 6 траўня 1924 г.

## Палажэньне аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

### I. Агульныя рысы.

**1.** Абкладу адзіным сельска-гаспадарчым падаткам падлягае насельніцтва, якое займаецца сельскай гаспадаркай, а гэтак-жа калектыўныя і савецкія гаспадаркі.

**2.** Плацежнікі адзінага сельска-гаспадарчага падатку не абкладваюцца ніякімі іншымі припадаючымі на сельскую гаспадарку падаткамі або паборамі, за выключэньнем надбаўкі на мясцовыя патрэбы, спаганяемае водлуг арт.арт. 19—23 гэтага палажэньня, і выплатаў водлуг абавязковага абкладнога забясьпечаньня.

У в а г а 1. Прыбыткі вясковага насельніцтва ад гандлю, прамысловасьці і іншых крыніцаў, не зьвязаных з сельскай гасцадаркай, падлягаюць у агульным кірунку абкладу, устаноўленаму на промыслы, гандаль і прыбыткі.

У в а г а 2. Насельніцтва, якое жыве у местах і вядзе вясковую гаспадарку на землях, не увaходзячых у межы местаў, падлягае абкладу сельска-гаспадарчым падаткам згодна гэтаму палажэньню і не звальняецца ад падаткаў, прыпадаючых на гарадзкое насельніцтва.

**3.** Адзіны сельска-гаспадарчы падатак вылічваецца у залатых рублях і спаганяецца грашыма.

### II. Што абкладваецца.

**4.** Падатак вылічваецца і спаганяецца з кожнае асобнае гаспадаркі водлуг ліку належачай да яе па праву трудавога карыстаньня і рандуемае зямлі, а гэтак-жа водлуг ліку рабочае і буйнае рагатае жывёлы.

У в а г а. У Закаўкаскай СФСР, Кіргіскай, Туркестанскай, Крымскай, Дагэстанскай і Горскай аўт. ССР, аўтаномных краінах: Карачаева-Чаркескай, Кабардына-Балкарскай, Чачэнскай і Калмыцкай, у Астраханскай губэрні і у беспасеўных жывёлаводных гаспадарках Сібіру, Далёка-Усходняй краіне і Мангола-Бурацкай аўт. ССР—абкладу падлягаюць гэтак-жа авечкі і козы.

**5.** За адзінку абкладу адзіным сельска-гаспадарчым падаткам прымаецца дзесяціна пахаці. Абкладваемая жывёла у гаспадарцы раўнуецца да пахаці водлуг належных нормаў (коэфіцыэнтаў) peралічэньня, згодна арт. 8 гэтага палажэньня, і выходзячы праз гэткае пералічэньне лік дзесяцінаў дадаецца да ліку дзесяцінаў абкладваемае зямлі у гаспадарцы.

У в а г а 1. Саветам народных камісараў Туркестанскае, Кіргіскае, Мангола-Бурацкае і Якутскае аўт. ССР, Краінным выканаўчым камітэтам Данское і Кубана-Чарнаморскае краінаў, губэрскім выканаўчым камітэтам Стаўропальскае і Тэрскае губэрняў, а гэтак-жа губэрняў Сібіру і Далёка-Усходняе краіны—даецца магчымасьць у мясцовасьцях дзе пераважвае залежнае земляробства за адзінку абкладу прымаць не дзесяціну пахаці, а дзесяціну сапраўднага засеву.

У в а г а 2. У беспасеўных жывёлаводных гаспадарках Закаўкаскае СФСР, Туркестанскае, Кіргіскае, Крымскае, Мангола-Бурацкае, Горскае, Дагэстанскае аўт. ССР, аўтаномных краінаў: Калмыцкай, Карачаева-Чаркескай, Кабардына-Балкарскай і Чачэнскай губэрняў Сібіру і Далёка-Усходняе краіны, а гэтак-жа Астраханскае губэрні за адзінку абкладу прымаецца адна галава буйнае рагатае жывёлы.

У в а г а 3. У іншых раёнах Саюзу ССР гаспадаркі, якія ня маюць обкладваемае зямлі, але маюць

---

[1]) Не агалошана (пратак. СНК Саюзу ССР № 33, пункт 39, за 11 сакавіка 1924 г.).

рабочую і буйную жывёлу, абкладваюцца на агульных падставах праз дараўнаваньне жывёлы да пахаці (або засеву).

6. У склад абкладваемае зямлі улучаюцца:

а) плошча пахаці, якая занята яравымі і азімымі палеткамі, папаром, талакою, засевамі траваў, рысу, баўны і інш. тэхнічнымі расьлінамі;

б) сады, агароды, вінаграднікі, арэхавыя, гарбатавыя і інш. культурныя насадкі, калясялібныя землі і адворыцы;

в) плошча поплавоў (поймаў) і незаліўных сенажацяў.

Увага. У мясцовасьцях, пералічаных увагай 1 да арт. 5, абкладваемых водлуг засеваў, да плошчы засеву дадаюцца усе пералічаныя у п. „б“ гэтага артыкулу плошчы, а гэтак-жа выкарыстоўваемыя гаспадаркай сенажаці.

7. У склад абкладваемае жывёлы улучаюцца коні, валы, вярблюды, аслы і мулы узросту старэй трох гадоў (у Сібіру і Кіргізіі—старэй чатырох гадоў) і буйная рагатая жывёла, за выключэньнем валоў, старэй паўтара году (да 1 красавіка году, папярэдняга абкладному), а у раёнах, пералічаных увагай да арт. 4, гэтак-жа перазімаваўшыя авечкі і козы.

8. Залежна ад прыбыткаў з сенажацяў і жывёлы у параўнаньні з пахацьцю устанаўліваецца дзеля асобных рэспублікаў, краінаў і губэрняў розныя нормы (коэфіцыэнты) пералічваньня ў пахаць:

а) паплавоў (поймаў) і незаліўных сенажацяў;

б) абкладваемае жывёлы, згодна дадаваемых табліцаў (дадаткі 1, 2 і 3).

Пры абкладаньні беспасеўных жывёлаводных гаспадарак раёнаў, пералічанах увагай 2 да арт. 5, да аднае галавы буйнае рагатае жывёлы прыраўноўваюцца: адна кабыла, адзін вярблюд, адзін мул, два аслы, тры аўцы і тры казы.

Увага 1. У мясцовасьцях, пералічаных увагай 1 да арт. 5, абкладваемых водлуг засеву, нормы дзеля пералічваньня дапасоўваюцца да дзесяціны засеву, а не пахаці.

Увага 2. Саветам народных камісараў саюзных рэспублікаў даецца магчымасьць ужываць адмысловыя нормы (коэфіцыэнты) дзеля пералічваньня у пахаць садоў, вінаграднікаў і інш. культурных насадкаў.

Савету народных камісараў Туркестанскае аўт. ССР даецца мягчымасьць устанаўліваць нормы дзеля пералічваньня непаліваемых земляў у паліваемыя.

Увага 3. Дзеля губэрняў Украінскае ССР, дзеля Беларускае ССР і дзеля Далёка-Усходняе краіны нормы дзеля пералічваньня жывёлы і сенажацяў у пахаць (засеў) устанаўліваюцца саветамі народных камісараў УССР і БССР і рэўкомам Далёка-Ўсходняе краіны водлуг належнасьці і падаюцца на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

9. Саветы народных камісараў Беларусскае ССР і Закаўкаскае СФСР і уваходзячых у яе рэспублікаў, а гэтак сама аўтаномных рэспублікаў, краінных, губэрскія, акружныя і павятовыя выканаўчыя камітэты могуць з'інэчваць дзеля асобных уваходзячых у іх склад адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінкаў устаноўленыя нормы дзеля пералічваньня сенажацяў і жывёлы з гэткім памеркаваньнем, каб агульны лік абкладваемае зямлі і жывёлы, выказанае у дзесяцінах пахаці, а у раёнах дзе абкладваюцца водлуг засеву—у дзесяцінах засеву, па рэспубліцы, краіне, губэрніі, павету або акрузе (водлуг належнасьці) не з'інэчваўся.

### III. Абкладваньне самотных і колектыўных гаспадарак.

10. Сума падатку па кожнай гаспадарцы азначаецца водлуг ліку маючыхся у ёй абкладваемых зямлі і жывёлы, выказаных у дзесяцінах пахаці (або засеву), залежна ад ліку ядакоў у гаспадарцы. Стаўкі падатку на гэты абкладны год устанаўліваюцца па раёнам, залежна ад ураджаю бягучаю году і становішча сельскае гаспадаркі, на падставе чаго гэты раён адносіцца да таго або іншага разраду па абкладваньню (арт. арт. 14 і 15).

Увага. Сума падатку з беспасеўных жывёлаводных гаспадарак у раёнах, пералічаных увагай 2 да арт. 5, азначаецца залежна ад ліку у гаспадарцы жывёлы пасьля пералічэньня яго на буйную рагатую жывёлу.

11. Дзеля абкладу маючыхся у кожнай гаспадарцы зямлі і жывёлы устанаўліваюцца тры розныя стаўкі з дзесяціны, залежна ад прыпадаючага на ядака ліку абкладваемае зямлі і жывёлы, выражаных у дзесяцінах пахаці (засеву);

а) водлуг першае—ніжэйшай стаўкі з дзесяціны абкладваецца першая, ніжэйшая доля абкладваемае зямлі на ядака у гаспадарцы;

б) водлуг другое—сярэдняе стаўкі з дзесяціны абкладваецца лішка зямлі звыш абкладзенае водлуг першае стаўкі да устаноўленае граніцы на ядака у гаспадарцы;

в) водлуг трэцяе—найвышэйшае стаўкі з дзесяціны абкладваецца рэшта лішкі звыш обкладзеных першай і другою стаўкамі.

Нормы зямельнае забясьпекі на ядака, абкладваемыя водлуг першае, другое і трэцяе ставак, паказаны у табліцах ставак, дададзеных да арт. 14 (дадатак 4).

Увага 1. Дзеля Архангельскае губэрні, Зыранскае аўт. краіны і Карэльскаэ аўт. ССР даюцца дзьве стаўкі з дзесяціны, залежна ад зямельнае забясьпекі на ядака у гаспадарцы.

Увага 2. Дзеля губэрняў Украінскае ССР, дзеля Беларускае ССР і Далёка-Усходняе краіны лік ставак і нормы зямельнае забясьпекі на ядака устанаўліваюцца саветамі народных камісараў Украінскае ССР і Беларускае ССР і рэўкомам Далёка-Усходняе краіны, водлуг належнасьці, і падаюцца на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

12. У Закаўкаскай СФСР і Туркестанскай аўт. ССР стаўкі падатку устанаўліваюцца залежна ад ліку абкладваемае зямлі, прыпадаючай на гаспадарку агулам. Лік ставак і нормы зямлі на гаспадарку, абкладваемае водлуг кожнае стаўкі, устанаўліваюцца саветамі на-

родных камісарау гэтых рэспублікаў і падаюцца на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**13.** Дзеля абкладу беспасеўных жывёлаводных гаспадарак у раёнах, пералічаных увагай 2 да арт. 5, устанаўліваюцца тры стаўкі падатку (з галавы буйнае рагатае жывёлы), залежна ад ліку абкладваемых адзінкаў жывёлы, прыпадаючых на гаспадарку:

Водлуг першае стаўкі абкладваецца да 5 галоў жывёлы, водлуг другое—лішка звыш 5 да 10 галоў і водлуг трэцяе стаўкі (найвышэйшай)—рэшта жывёлы у гаспадарцы звыш 10 галоў, пасьля пералічэньня на буйную рагатую жывёлу.

**14.** Дзеля розных раёнаў Саюзу ССР устанаўліваюцца розныя стаўкі падатку на абкладваемую дзесяціну пахаці (засеву) а у беспасеўных жывёлаводных гаспадарках раёнаў, пералічаных увагаю 2 да арт. 5, розныя стаўкі падатку на одну галаву буйнае рагатае жывёлы, згодна падаваемым табліцам ставак па раёнам (дадатак 4).

Увага. Дзеля губэрняў Украінскае ССР, дзеля Беларускае ССР, Закаўкаскае СФСР, Туркестанскае аўт. ССР і Далёка-Ўсходняе краіны вялічыня ставак падатку устанаўліваецца саветамі народных камісараў названных рэспублікаў і рэўкомам Далёка-Усходняе краіны, водлуг належнасьці, і падаюцца на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**15.** Аднясеньне рэспублікаў, краінаў і губэрняў да таго ці іншаго разраду водлуг абкладу ствараецца пасьля выяўленьня які ураджай хлябоў і траваў будзе у бягучым годзе і адпаведна коньюнктуры (становішчу) сельское гаспадаркі не пазьней 15 жніўня, саветамі народных камісараў саюзных рэспублікаў і зацьверджваецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**16.** З мэтаю, каб найболыш падблізіць стаўкі падатку да мясцовых гаспадарчых асаблівасьцяў, саветам народных камісараў рэспублікаў, якія ня маюць падзелу на губэрні, краінным і губэрскім выканаўчым камітэтам даецца магчымасьць ужываць дзеля асобных паветаў і воласьцяў (або адпавядаючых ім адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінкаў) і іншыя з устаноўленых гэтым палажэньнем раённых табліцаў ставак, а гэтак жа з'іначваць па паветам і валасьцям устаноўленыя разрады дзеля абкладаньня з тым, каб агульная сума падатку, вылічаная водлуг ставак і разраду дзеля абкладаньня, устаноўленаму дзеля рэспублікі, краіны або губэрні, не з'іначвалася.

Увага. Павятовым і адпавядаючым ім выканаўчым камітэтам даецца магчымасьць, калі ураджай асабліва разнастайны, устанаўліваць разрады абкладаньня і па вёсках.

### IV. Абкладваньне савецкіх гаспадарак.

**17.** Дзяржаўныя і прыпісаныя да установаў і прадпрыемстваў гаспадаркі (сав. гасп.) абкладваюцца водлуг сярэдняе стаўкі падатку з дзесяціны абкладваемае зямлі, вылічанае дзеля самотных гаспадарак губэрні (або адпавядаючае ей адміністратыўна-тэрытытарыяльнае адзінкі). Сярэдняя стаўка азначаецца падзелам агульнае сумы падатку з самотных гаспадарак, вылічанага водлуг разьдзелу III гэтага палажэньня, на агульны лік абкладваемых дзесяцінаў зямлі (улучаючы лік дзесяцінаў, якімі выражаны лік абкладваемае жывёлы) у самотных гаспадарках рэспублікі, краіны або губэрніі.

**18.** У раёнах, дзе за адзінку абкладаньня ўзята дзесяціна пахаці, у склад абкладваемае пахатнае зямлі савецкіх гаспадарак улучаецца толькі насапраўды выкарыстоўваемыя у бягучым годзе зямельныя угодзьзі, г.-е. азімае і яровае поле і плошча пад папаром, вызначаная дзеля засеву у бліжэйшую восень або вясну. Усе іншыя зямельныя угодзьдзі (сады, агароды сенажаці і калясялібныя землі) улучаюцца да абкладу на агульных падставах.

### V. Надбаўкі да адзінага сельска-гаспадарчага падатку на мясцовыя патрэбы.

**19.** Дзеля пакрыцьця выдаткаў, аднесеных на мясцовыя патрэбы аўтаномных рэспублікаў, якія ня маюць падзелу на губэрні, краінаў, губэрняў, акругаў, паветаў, раёнаў, і воласьцяў (на утрыманьне установаў мясцовае вартасьці, школаў, больніцаў, дарогаў, мастоў і інш. выдаткі, прадугаданыя часовым палажэньнем аб мясцовых грашовых справах, зацьверджаным Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР 12 лістападу 1923 г. і дадаткамі да яго)—устанаўліваецца процантная надбаўка да ставак падатку, прадугаданых гэтым палажэньнем.

**20.** Абмяжоўваецца вялічыня агульнае сумы процантнае надбаўкі на мясцовыя патрэбы Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР дзеля кожнае саюзнае рэспублікі.

Саветы народных камісараў саюзных рэспублік у гэтых межах устанаўліваюць і падаюць на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР найвышэйшы процант надбаўкі дзеля аўтаномных рэспублік, ня маючых падзелу на губэрні, краінаў і губэрняў.

**21.** Саветы народных камісараў аўтаномных рэспублік, ня маючых падзелу на губэрні, краінныя выканаўчыя камітэты і губэрскія выканаўчыя камітэты маюць права з'іначваць процант надбаўкі дзеля асобных акругаў, паветаў, волосьцяў і адпавядаючых ім адміністратыўных адзінкаў з тым, каб агульная сума надбаўкі па рэспубліцы, краіне або губэрні не перабольшвала зацьверджанага Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР проценту.

**22.** Разьмеркаваньне мясцовое надбаўкі паміж бюджэтамі аўтаномных рэспублікаў, краіннымі, губэрнскімі, акружнымі, павятовымі, валаснымі і адпавядаючымі ім бюджэтамі ствараецца гэтак, як устаноўлена часовым палажэньнем аб мясцовых грашовых справах.

**23.** Надбаўка дзеля здавальненьня мясцовых патрэбаў вылічваецца дзеля кожнае асобнае гаспадаркі адначасова з галоўным падаткам і запісваецца у абкладны ліст плацежніка. Надбаўка спаганяецца адначасова з галоўным падаткам і йдзе у дзяржаўную скарбніцу пад адною агульнаю сумаю. Спагнаная надбаўка перадаецца у мясцовыя сродкі гэтак, як устаноўлена народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР

і зацьверджана Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР, і ў тэрміны, устаноўленыя тым жа чынам.

### VI. Прывілеі па адзінаму сельска-гаспадарчаму падатку.

**24.** З мэтаю, каб падняць сельскую гаспадарку, заахвоціць да палепшаных спосабаў гаспадараньня, узгадаваць каштоўныя культуры і завясьці зямельныя паляпшэньні, пры спагнаньні падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы ужываюцца прывілеі:

А. Саўсім звальняюцца ад сельска-гаспадарчага абкладваньня:

а) плошчы, занятыя культурамі (расьлінамі) на насеньне: траў дзеля засеву, карняплодаў і палепшаных гатункаў іншых расьлінаў;

б) плошчы распачынаемых пладовых і вінаградных школкаў (пітомнікаў) у працягу першых 4 гадоў ад распачатку;

в) новыя пладовыя насадкі, не дайшоўшыя да вышэйшага узросту, устананоўленага па кожнай саюзнай рэспубліцы народным камісарыятам грашовых справаў, згодна з народным камісарыятам земляробства гэтае рэспублікі;

г) плошчы, занятыя памалагічэскімі (гатунковымі) садамі, водлуг асобных сьпісаў, якія устаноўлівае народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, згодна з народным камісарыятам земляробства адпавядаючых рэспублікаў;

д) плошчы распачынаемых вінаграднікаў і вінаграднікаў, падмалоджваемых зрэзваньнем да-гала (пад чорную галоўку)—у працягу 5 гадоў пасьля распачатку і 5 гадоў пасьля падмалоджваньня; плошчы вінаграднікаў, разводжваемых на сыпучых пясках і камяніцах (камяністых глебах), нягожых дзеля іншае сельска-гаспадарчае культуры,—у працягу першых 10 гадоў пасьля саджаньня сажанкаў;

е) плошчы распачынаемых хмельнікоў—у працягу аднаго году пасьля распачатку;

ж) сенажаці, выдзельваемыя з грамадзянскага запасу дзеля жарабцоў, бугаёў і інш., скарыстоўваемых дзеля ўсіх (пушчаюць ўсе грамадзяне),—у межах да 3 дзесяцінаў на галаву.

Б. Падлічэньню пры абкладаваньні не падлягаюць:

а) ўсе бугаі (якіх пушчаюць да кароў) і ухваленыя устаноўленым чынам жарабцы (якіх пушчаюць да кабылаў), з умоваю, калі іх скарыстоўваюць пускаючы да жывёлаў адпаведна з правіламі, выдаваемымі належнымі народнымі камісарыятамі земляробства і іх органамі;

б) ўся завацкая сельска-гаспадарчая жывёла, зарэгістраваная земельнымі органамі устаноўленым чынам да 1 красавіка году, папярэдняга абкладному.

В. Нягожыя землі, не папаўшыя у папярэднім абкладным гаду у лік абкладваемае плошчы,—у разе іх паляпшэньня (мэліарацыі), а гэтак-жа землі, штучна абвяльгаценыя, абведзеныя валам і абсушаныя, не пападаўшыя у лік абкладваемае плошчы, не падлягаюць абкладваньню у працягу 3 гадоў пасьля сканчаньня на іх работаў дзеля паляпшэньня, зробленых за кошт карыстаючых зямлю.

Г. Балотныя сенажаці, пападаўшыя у папярэднім абкладным годзе у склад абкладваемае плошчы, у разе паляпшэньня іх праз ужываньне культур-тэхнічнае працы, звальняюцца ад падатку на адзін год.

Д. Гаспадаркі, рабіўшыя у 1921—1923 гадох значную працу дзеля абваднеьня, абсушкі і каля пяскоў і яраў, а гэтак-жа пабудаваўшыя дзеля сваіх гаспадарак артэзіанскія і глыбокія постыя (звыш 20 сж.) калодзезі, звальняюцца ад 10% падатку, прыпадаючага на палепшаную і абслугоўваемую колодзезямі плошчу, водлуг інструкцыі, выдаваемай народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, згодна з народным камісарыятам земляробства адпавядаючых рэспублікаў.

Е. Грамадцкае орыво, зробленае з мэтою, каб утварыць незачэпныя насенныя запасы (фонды), звальняецца ад падатку, водлуг інструкцыі, выдаваемай народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, згодна з народным камісарыятам земляробства саюзных рэспублікаў.

Ж. Звальняюцца ад абкладваньня гаспадаркі перасяленцаў, усяляючыхся, водлуг правілаў аб землябудаўніцтве і перасяленьні, на новыя мейсцы, дзе пабудаваньне гаспадаркі патрабуе з боку земляробаў працы на раскарчоўкі і іншых паляпшэньняў дзеля падрыхтоўкі культурных земляў,—у працягу пяцёх гадоў пасьля усяленьня на новым мейсцы. Гэтак сама звальняюцца ад абкладваньня гаспадаркі перасяленцаў і расьсяленцаў, усяляючыхся на новых мейсцах у лесна-стэпных і стэпных раёнах, дзе пабудоўка гаспадаркі патрабуе распрацоўкі цаліны, у працягу першых трох гадоў пасьля усяленьня.

З. Звальняюцца ад абкладваньня:

а) дасьледчыя і дасьледча-паказальныя гаспадаркі сельска-гаспадарчых навучальных і навуковых установаў, згодна асобных сьпісаў, якія устанаўлівае народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, па згодзе з народным камісарыятам земляробства і камісарыятам народнае асьветы адпавядаючых рэспублікаў;

б) кавалкі зямлі, належачыя да знаходзячыхся на дзяржаўным і мясцовым утрыманьнях дасьледчых і дасьледча - паказальных сялекцыёных, насенных і жывёлаводцтвенных станцыяў, завацкіх гаспадарак і конскіх заводаў водлуг сьпісаў, якія устанаўліваюцца водлуг згоды народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР з народным камісарыятам зямляробства адпавядаючых рэспублікаў;

в) плошчы дасьледча-паказальных вучасткаў аграпамічнае арганізацыі водлуг сьпісаў, якія устанаўліваюць губэрскія (і адпавядаючыя ім) органы па грашовым справам, згодна з падлеглымі зямельнымі органамі;

г) не адданыя у ранду плошчы засеваў сав. гаспадарак, маючыя дасьледчы або дасьледча-паказальны характар,—водлуг сьпісаў, зацьверджваемых народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, згодна з народнымі камісарыятамі земляробства адпавядаючых рэспублік.

І. Саветам народных камісараў саюзных рэспублік даецца права устанаўляць прэміі за сельска-гаспадарчыя паляпшэньні, праводжваемыя валасьцямі, вёскамі, зямельнымі грамадамі, коопэратывамі і іншымі аб'яднаньнямі насельнікаў, у форме зьніжэньняў з падатку і дачы прэміяў з гэткім разьлічэньнем, каб агульная сума прэміяў па рэспубліцы не перабольшвала аднаго проданту агульнае сумы падатку.

Увага. Палёгкі, прадугаданыя п. „І“, ужываюцца і датычна тых грамадцкіх арганізацыяў, якія скарыстоўваюць дзеля сельска-гаспадарчае працы, апрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў, саматужнае прамысловасьці і саматужных патрэбаў—электрычную энэргію.

**25.** З мэтаю, каб палегчыць маламожнаму сялянству магчымасьць адбудаваць і палепшыць сваю гаспадарку,—устанаўліваюцца ільготы:

А. Саўсім звальняюцца ад падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы:

а) усе гаспадаркі, ня маючыя абкладваемае жывёлы, калі у гэтых гаспадарках есьць ня больш $^3/_4$ дзесяціны абкладваемае зямлі на ядака у раёнах, дзе абкладваньне робіцца водлуг пахаці, і ня больш $^1/_2$ дзесяціны у раёнах, дзе абкладваньне робіцца па засеву;

б) гаспадаркі, ня маючыя працаўнікоў і працаўніц, калі яны маюць ня больш $^3/_4$ дзесяціны зямлі (або $^1/_2$ дзесяціны засеву) на ядака і аднае галавы абкладваемае жывёлы (у Сібіру, Кіргіскай рэспубліцы, Астраханскай губэрні, Калмыцкай краіне, Закаўкаскай СФСР—ня больш дзьвёх галоў).

Б. Гаспадаркі, ня маючыя рабочае жывёлы, калі абкладваемае зямлі у іх ня больш $^3/_4$ дзесяціны на ядака у раёнах, дзе абкладваньне робіцца водлуг пахаці, і ня больш $^1/_2$ дзесяціны у раёнах, дзе абкладваньне робіцца водлуг засеву, выплачваюць падатак і мясцовую надбаўку да яго напалову.

В. Апрача таго, звальняюцца ад усяго або часткі падатку і мясцовае надбаўкі да яго іншыя найбольш маламожныя сялянскія гаспадаркі залежна ад прыметаў: прысутнасьць працаўнікоў, зямлі і жывёлы, якія устанаўліваюцца дзеля кожнае рэспублікі, ня маючай падзелу на губэрніі, краіны і губэрніі, адпавядаючым саветам народных камісараў, краінным або губэрскім выканаўчым камітэтам, з гэткім разрахункам, каб агульная сума зьніжэньня, водлуг п. п. „А“, „Б“ і „В“ гэтага артыкулу, не перабольшвала $6^1/_2\%$ усяго налічанага па рэспубліцы, краіне або губэрніі падатку і мясцовае надбаўкі да яго.

Увага 1. Дзеля Украінскае ССР, Беларускае ССР, Закаўкаскае СФСР, Туркестанскае АССР катэгорыі гаспадарак, карыстаючыхся палёгкамі, устанаўляюцца саветамі народных камісараў гэтых рэспублікаў у межах, не перабольшваючых $6^1/_2\%$ налічанага па рэспубліцы падатку і мясцовае надбаўкі да яго. У Туркестанскай АССР з кошту устаноўленых $6^1/_2\%$ павінна быць дадзена палёгка насельнікам раёнаў, пакутуваўшым ад басмачаства.

Увага 2. Палёгкі, дадзеныя водлуг гэтага артыкулу, не пашыраюцца на гаспадаркі, якія маюць прыбыткі ад заняткаў, прадугаданых увагою 1 да арт. 2.

**26.** З мэтаю каб палегчыць выплату падатку гаспадаркам, члены у якіх знаходзяцца на запраўднай службе у рабоча-сялянскай чырвонай арміі і чырвоных марскім і паветраных флётах, у войсках Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Кіраўніцтва і у міліцыі, а гэтак-жа сем'ям калекаў ад грамадцкае вайны і слухачоў сав. парт. школаў, камуністычных унівэрсітэтаў і працоўных факультэтаў—даюцца наступныя ільготы:

А. Пры падлічваньні ядакоў дзеля вылічэньня падатку, залічваюцца у лік ядакоў ўсе асобы, знаходзячыяся на запраўднай службе у чырвонай арміі, чырвоным марскім і паветраным флётах, войсках Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Кіраваньня і міліцыі; слухачы ж і асобы страявога камандырскага складу рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту (марского і паветранага) і войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Кіраўніцтва залічваюцца за двух ядакаў кожный.

Б. Гаспадаркі, у склад якіх уваходзяць асобы, пералічаныя у п. „А“, ня маючыя у сваім складзе іншых працаздольных мужчынаў, звальняюцца ад выплаты усяго належачага з іх падатку і мясцовае надбаўкі да яго, калі на ядака прыпадае абкладваемае зямлі і жывёлы пасьля пералічэньня на зямлю ня звыш сярэдняга забясьпечаньня ядака абкладваемаю зямлею у рэспубліцы, краіне або губэрніі, згодна дадаваемаму раскладу (дадатак 5).

В. Усе гаспадаркі, пералічаныя у п. „Б“, пры прысутнасьці у гаспадарцы працаздольных мужчынаў, звальняюцца ад паловы налічанага на іх падатку і надбаўкі да яго.

Г. Гаспадаркі, у склад якіх уваходзяць калекі ад грамадцкае вайны, гаспадаркі чырвонаармейцаў, знаходзячыхся у палону, а гэтак-жа зволеных у бястэрміновы водпуск пасьля 1 сакавіка, папярэдняга абкладваемаму году, асобаў, знаходзячыхся у запасу рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту, прыцягваемых у якасьці інструктароў па вайсковай падрыхтоўцы працуючых, слухачоў сав. парт. школаў, камуністычных унівэрсітэтаў і прац. факульт.,—карыстаюцца тымі ж палёгкамі у падатку, якімі карыстаюцца і гаспадаркі чырвонаармейцаў, знаходзячыхся на запраўднай службе (п. п. „А“, „Б“ і „В“ гэтага артыкулу).

Увага 1. Абмяжоўваецца вялічыня забясьпекі зямлею і жывёлаю пасьля пералічэньня на зямлю, якая дае права на палёгку, паказаную у п. п. „Б“, „В“ і „Г“ гэтага артыкулу, у Украінскай ССР, Закаўкаскай СФСР, Беларускай ССР, Туркестанскай і Якутскай АССР саветамі народных камісараў гэтых рэспублікаў, а у Далёка-Усходняй краіне—рэўкомам апошняе і падаецца на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

Увага 2. Пры абкладваньні беспасеўных жывёлаводных гаспадарак палёгкі, паказаныя у п. п. „Б“, „В“ і „Г“, даюцца гаспадаркам, якія маюць ня звыш 5 галоў жывёлы пасьля пералічэньня на буйную рагатую жывёлу.

**27.** Гаспадаркі, у склад якіх уваходзяць асобы зьменнага складу тэрыторыяльных часткаў, заклікаными дзеля навучаньня і на зборы, карыстаюцца адтэрмінаваньнем выплаты падатку і мясцовае надбаўкі да яго на адзін месяц з часу звароту іх пасьля навучаньня і збору, пры чым пеня за гэты час не налічваецца.

**28.** Землі, знаходзячыяся у карыстаньні школаў, дзіцячых установаў, працоўных калёніяў дзеля паз-

баўленых слабоды, фэрмы, агароды і іншыя гатункі гаспадарак месцаў замыканьня курортных і лекавых установаў, знаходзячыхся у загадзе органаў народных камісарыятаў аховы здароўя, а гэтак-жа грамадцкія засевы, якія маюць навучальна-паказальную вартасьць або абслугоўваючыя з харчовага боку культурна-асьветныя установы органаў народных камісарыятаў асьветы,—саўсім звальняюцца ад падатку і мясцовае надбаўкі да яго.

**29.** З мэтаю, каб падтрымаць дзейнасьць сялянскіх камітэтаў ўзаемадапамогі і камітэтаў маламожных сялян—грамадцкае арыва з валаснога (раёнага) зямельнага запасу, скарыстоўваемае камітэтамі дзеля ажыцьцяўленьня сваіх задачаў, звальняецца ад падатку і мясцовае надбаўкі да яго.

**30.** Колэктыўным і коопэратыўным, ужываючым грамадцкую працу каля зямлі, гаспадаркам даецца зьніжэньне: першым у вялічыні 25% і другім—у вялічыні 10% з налічанага на іх падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы, калі гаспадаркі гэтых колектываў і коопэратываў вядуцца без нанятых рабочых.

## VII. Органы падлічваньня і спагнаньня падатку.

**31.** З мэтаю, каб дасягнуць найбольшага адзінства і дапасованасьці у падатковай працы на мясцох, пры выканаўчых органах рэспублікаў, якія ня маюць падзелу на губэрніі, краінаў, губэрніяў, акругаў і паветаў, з'арганізоўваюцца падатныя камісіі у складзе прадстаўнікоў адпавядаючых органаў народнага камісарыяту грашовых справаў, народнага камісарыяту земляробства і цэнтральнага статыстычнага кіраўніцтва.

На абавязку камісіі ляжыць:

А. Папярэдняе разгляданьне ніжэйнаступных пытаньняў:

а) аб ужываньні школаў абкладваньня дзеля асобных акругаў, паветаў, воласьцяў і адпавядаючых ім тэрытарыяльна-адміністратыўных адзінкаў;

б) аб устанаўленьні павятовых, валасных (і адпавядаючых ім) разрадаў дзеля абкладваньня, коэфіцыэнтаў дзеля пералічваньня сенажацяў і жывёлы у пахаць або засеў;

в) аб ужываньні палёгкаў пры выплаце падаткаў;

г) аб устанаўленьні павятовых, валасных (і адпавядаючых ім) вялічын надбаўкі на мясцовыя патрэбы.

Б. Развязваньне скаргаў плацежнікаў.

**32.** Складваньне пасялённых падатачных сьпісаў з падлічваньнем дзеля кожнае гаспадаркі пахаці, засеву, сенажаці, жывёлы, ядакоў—учыняецца валаснымі выканаўчымі камітэтамі, раёнымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі саветамі або адпавядаючымі ім органамі да 1 чэрвеня, а у раёнах, пералічаных увагаю 1 да арт. 5 гэтага палажэньня—да 15 чэрвеня году, папярэдняга абкладному.

Пасьля зацьверджаньня разрадаў дзеля абкладваньня (арт. 15) і вялічыні надбавак на мясцовыя патрэбы (арт. 21) валасныя выканаўчыя камітэты (раёныя выканаўчыя камітэты) канчаюць падатачныя сьпісы, уносячы у іх суму належачага з кожнае гаспадаркі падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы, і выдаюць плацежнікам устаноўленыя абкладныя лісты.

**33.** Адпаведнасьць за правідловасьць і сваечасовасьць падлічваньня абкладваемае зямлі і жывёлы, а гэтак-жа ядакоў у кожнай гаспадарцы, за правідловасьць і сваечасовасьць вылічэньня падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы, за сваечасовае і поўнае спагнаньне падатку і надбаўкі,—ускладваецца на валасныя выканаўчыя камітэты (раёныя выканаўчыя камітэты) і сельскія саветы.

## VIII. Абавязкі і адпаведнасьць плацежнікаў.

**34.** Плацежнікі павінны узяцца за здачу падатку і надбаўкі да яго на мясцовыя патрэбы пасьля падачы ім абкладных лістоў, у некалькі тэрмінаў, якія устанаўлівае народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, згодна з народным камісарыятам земляробства саюзных рэспублікаў і цэнтральным статыстычным кіраўніцтвам Саюзу ССР і аголошвае не пазьней 1 жніўня. Дзеля маламожных сялянскіх гаспадарак устанаўляюцца ільготныя тэрміны выплаты падатку.

**35.** За неправідловую дачу патрэбных ведаў плацежнікі адказваюць у карным (угалоўным) парадку.

**36.** Плацежнікі, не выплаціўшыя падатку і мясцовае надбаўкі да яго у вызначаныя тэрміны, нясуць адказ згодна палажэньню аб спагнаньні падаткаў і збораў.

**37.** Скаргі на неправідловае падлічваньне рэчаў адзнакаў дзеля абкладваньня і не правідловае адня сеньне да таго ці іншага разраду па абкладваньню, а гэтак жа на не правідловае вылічэньне і спагнаньне падатку, а гэтак сама просьбы аб дачы палёгкаў падаюцца праз інспэктара па грашовым справам у павятовы (або адпавядаючы яму) аддзел па грашовым справам і падаюцца апошнім, з яго заключэньнем, на разгляданьне павятовых (або адпавядаючых ім) падатных камісіяў.

Скаргі на разьвязак павятовых падатных камісіяў накіроўваюцца праз павятовыя адзелы по грашовым справам у губэрскія (або адпавядаючыя ім) адзелы па грашовым справам і апошнімі перадаюцца на разьгляданьне губэрскіх (або адпавядаючых ім) падатных камісіяў.

Падачы просьбы або падача скаргі ня спыняе спагнаньня падатку і надбаўкі да яго.

**38.** Ажыцьцяўленьне гэтага палажэньня ускладваецца на народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, якому даручаецца выдаваць правілы, інструкцыі і тлумачэньні аб ужываньні гэтага палажэньня.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у №№ 101, 102, 103, „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 6, 7, і 8 траўня 1924 г.

*Дадатак 1.*

## Табліца коэфіцыэнтаў дзеля пералічваньня сенажацяў у пахаць і засеў.

| Чарговыя №№ | Рэспублікі, краіны і губэрні. | Коэфіцыэнты дзеля пералічваньня. У пахаць. Аднае дзесяціны сенажаці. Паплавы (поймы). | У пахаць. Не заліўныя. | У засеў. Паплавы (поймы). | У засеў. Не заліўныя. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Архангэльская губэрня | 1/3 дес. | 1/4 дес. | — | — |
| 2 | Астраханская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 3 | Адыгэйская аўт. краіна | 1/2 „ | 1/4 „ | 1/3 дес. | 1/4 дес. |
| 4 | Бранская губэрня | 3/4 „ | 1/2 „ | — | — |
| 5 | Башкірская АССР | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 6 | Уладзімірская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 7 | Валагоцкая губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 8 | Воцкая краіна | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 9 | Вяцкая губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 10 | Варонежская губэрня | 3/4 „ | 1/2 „ | — | — |
| 11 | Горская АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 12 | Гомельская губэрня | 1/2 „ | 1/4 „ | — | — |
| 13 | Грозны | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 14 | Дагэстанская АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 15 | Данская краіна | 1/8 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 16 | Закаўкаская СФСР | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 17 | Іванава-Вазнясенская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 18 | Кабардына-Балкарская аўт. краіна | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 19 | Карачаева-Чаркеская аўт. краіна | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 „ | 1/6 „ |
| 20 | Карэльская АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 21 | Калмыцкая аўт. краіна | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 22 | Калуская губэрня | 3/4 „ | 1/2 „ | — | — |
| 23 | Кіргіская АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 24 | Кастрамская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 25 | Комі (Зыранская аўт. краіна) | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 26 | Крымская АССР | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 27 | Кубана-Чарнаморская краіна | 1/2 „ | 1/3 „ | 1/3 дес. | 1/4 дес. |
| 28 | Курская губэрня | 1 „ | 3/4 „ | — | — |
| 29 | Ленінградская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 30 | Марыйская аўт. краіна | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 31 | Мангола-Бурацкая АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 32 | Маскоўская губэрня | 3/4 „ | 1/2 „ | — | — |
| 33 | Ніжэгароцкая губэрня | 1/2 „ | 1/8 „ | — | — |
| 34 | Немцаў Паволжа АССР | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 35 | Наўгароцкая губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 36 | Арлоўская губэрня | 1 „ | 3/4 „ | — | — |
| 37 | Пэнзенская губэрня | 3/4 „ | 1/2 „ | — | — |
| 38 | Пскоўская губэрня | 1/4 „ | 1/4 „ | — | — |
| 39 | Разанская губэрня | 1 „ | 3/4 „ | — | — |
| 40 | Самарская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 41 | Саратаўская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 42 | Севера-Дзьвінская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 43 | Сімбірская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 44 | Сібір | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 45 | Смаленская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 46 | Стаўропальская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 47 | Татарская АССР | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 48 | Тамбоўская губэрня | 1 „ | 3/4 „ | — | — |
| 49 | Тэрская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/4 дес. |
| 50 | Тверская губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 51 | Тульская краіна | 1 „ | 3/4 „ | — | — |
| 52 | Туркестанская АССР | 1/2 „ | 1/3 „ | 1/8 дес. | 1/4 дес. |
| 53 | Уральская краіна | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 54 | Царыцынская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 55 | Чарапавецкая губэрня | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 56 | Чачэнская аўт. краіна | 1/3 „ | 1/4 „ | — | — |
| 57 | Чуваская аўт. краіна | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |
| 58 | Якутская АССР | 1/3 „ | 1/4 „ | 1/4 дес. | 1/6 дес. |
| 59 | Яраслаўская губэрня | 1/2 „ | 1/3 „ | — | — |

*Дадатак 2.*

**Табліца дзеля пералічваньня аднае галавы буйнае абкладваемае жывёлы у пахаць і засеў.**

| Чарговыя №№ | Рэспублікі, краіны і губэрні. | Нормы дзеля пералічваньня у пахаць. | | | Нормы дзеля пералічваньня у засеў. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Коні, вярблюды, мулы. | Буйная рагатая жывёла (за выключэн. валоў). | Валы і аслы. | Коні, вярблюды, мулы. | Буйная рагатая жывёла (за выключэн. валоў). | Валы і аслы. |
| 1 | Адыгэйская аўт. краіна | 0,8 дзес. | 0,8 дзес. | 0,4 дзес. | 0,5 дзес. | 0,5 дзес. | 0,25 дзес. |
| 2 | Архангельская губ. | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 3 | Астраханская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 4 | Башкірская АССР | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 5 | Бранская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 6 | Валагоцкая губ. | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 7 | Варонежская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 8 | Воцкая аут. краіна | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 9 | Уладзімірская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 10 | Вяцкая губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 11 | Гомэльская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 12 | Горская АССР. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 13 | Грозны | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 14 | Дагэстанская | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 15 | Данская АССР | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ |
| 16 | Закаўкаская СФСР | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 17 | Іванава-Васнясенская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 18 | Кабардына-Балкарская аўт. краіна | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ |
| 19 | Карачаева-Чаркеская аўт. краіна | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ |
| 20 | Калмыцкая аут. краіна. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | 0,9 „ | 0,9 „ | 0,40 „ |
| 21 | Карэльская АССР | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 22 | Кастрамская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 23 | Комі (Зыранская аўт. краіна) | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 24 | Кіргіская АССР | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ | 0,3 „ | 0,3 „ | 0,15 „ |
| 25 | Крымская АССР. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 26 | Калуская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 27 | Кубана-Чарнаморская краіна | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | 0,4 „ | 0,4 „ | 0,20 „ |
| 28 | Курская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 29 | Ленінградзкая губ. | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ | — „ | — „ | — „ |
| 30 | Марыйская аўт. краіна. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 31 | Маскоўская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 32 | Мангола-Бурацкая АССР | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | 0,4 „ | 0,4 „ | 0,20 „ |
| 33 | Ніжэгароцкая губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 34 | Наўгароцкая губ. | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ | — „ | — „ | — „ |
| 35 | АССР Немцау Паволжжа. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 36 | Арлоўская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 37 | Пскоўская губ. | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ | — „ | — „ | — „ |
| 38 | Пэнзенская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 39 | Разанская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 40 | Самарская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 41 | Саратауская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 42 | Сімбірская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0,6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 43 | Севера-Дзьвінская губ. | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 44 | Сібір | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | 0,4 „ | 0,4 „ | 0,20 „ |
| 45 | Смаленская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 46 | Стаўрапальская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ |
| 47 | Тамбоуская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 48 | Тэрская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | 0,5 „ | 0,5 „ | 0,25 „ |
| 49 | Татарская АССР | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 50 | Тварская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 51 | Тульская губ. | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 52 | Туркестанская АССР | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,30 „ |
| 53 | Уральская краіна | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 54 | Царыцынская губ. | 1,3 „ | 1,3 „ | 0.6 „ | — „ | — „ | — „ |
| 55 | Чарапавецкая губ. | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | — „ | — „ | — „ |
| 56 | Чачэнская аўт. краіна | 0,8 „ | 0,8 „ | 0.4 „ | — „ | — „ | — „ |
| 57 | Чуваская аўт. краіна | 1,0 „ | 1,0 „ | 0,5 „ | — „ | — „ | — „ |
| 58 | Якуцкая АССР | 0,6 „ | 0,6 „ | 0,3 „ | 0,4 „ | 0,4 „ | 0,20 „ |
| 59 | Яраслаўская губ. | 0,8 „ | 0,8 „ | 0,4 „ | — „ | — „ | — „ |

траным рынку, а таксама у разгляданьні праходзячых праз галоўных концэсійны камітэт статутаў акцыянэрных таварыстваў і просьбаў замежных фірмаў аб дапушчэньні да опэрацыяў на абшары Саюзу ССР;

д) дача юрыдычных заключэньняў па пытаньням, датычным прававога рэгуліраваньня гандлёвага звароту;

е) распрацоўка мерапрыемстваў да развіцьця і арганізацыі унутранага рынку з забясьпекаю пераважнага уплыву дзяржаўнага коопэратыўнага гандлю у гандлёвым звароце; удзел у выпрацоўцы плянаў фінансіраваньня і крэдытаваньня гандлю і ў распрацоўцы пытаньняў, датычных грашовага звароту, падаткаў, забясьпекі, транспарту, прамысловасьці, замежнага гандлю, у паасобнасьці—у складаньні вытворных і экспортна-імпортных плянаў—з погляду інтарэсаў унутранага гандлёвага звароту;

ж) кіраваньне справаю рэгістрацыі гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў і вядзеньне гандлёвага сьпісу прадпрыемстваў, маючых агульнасаюзнае значаньне.

**7.** На народны камісарыят па унутранаму гандлю Саюзу ССР, па стытычна-эконамічнаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) учот агульных і розьнічных цэнаў у дзяржаўным, коопэратыўным і прыватным гандлю;

б) учот гандлёвых апаратаў, гандлёвых зваротаў і гандлёвых капіталаў;

в) вядзеньне біржавое статыстыкі;

г) учот цэнаутвараючых фактараў як аснаўных, гэтак і другарадных на усіх ступенях і ва ўсіх стадыях звароту, як вытворнае каштоўнасьці, гандлёвых накладных выдаткаў і г. п.;

д) вывучваньне кон'юнктуры гандлёвага рынку, у зьвязку з кон'юнктурай народнае гаспадаркі;

е) складаньне агульных справаздачных ведаў аб становішчы гандлю Саюзу ССР у цэльным і яго асобных галінаў.

**8.** На народны камісарыят унутранага гандлю Саюзу ССР, па адзелу дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў, ускладаецца:

а) непасрэднае кіраваньне, у межах дзеючага законадаўства, дзяржаўнымі прадпрыемствамі, якія у устаноўленым парадку будуць прызнаны маючымі агульнасаюзнае значаньне і пераданы у веданьне народнага камісарыяту унутранага гандлю Саюзу ССР, у паасобнасьці—назначэньне, перамяшчэньне і звальненьне адпаведнага кіраўнічага пэрсаналу гэтых прадпрыемстваў, зацьверджаньне каштарысаў, пэрспэктыўных плянаў, справаздачаў і балянсаў;

б) арганізацыя новых прадпрыемстваў агульнасаюзнага значаньня;

в) удзел у зьмешаных акцыянэрных таварыствах.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 106 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 11 траўня 1924 г.

---

## 166. Аб парадку накладаньня спагнаньняў за нарушэньне пастановаў аб пабочных падатках (акцызах).

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

I.

**1.** Урадавыя асобы інспэкцыі пабочных падаткаў, а пры адсутнасьці іх на месцы, агэнты міліцыі аб кожным выяўленым нарушэньні пастановы аб акцызах складаюць пратаколы па устаноўленай форме і, у выпадку патрэбы, прымаюць іншыя меры, прадгледжаныя адпаведнымі артыкуламі карна-процэсуальных кодэксаў саюзных рэспублік; усе пратаколы і акты дазнаньня паступаюць да загадчыка губэрскім (ці адпаведным яму) грашовым аддзелам ці да старэйшых інспэктараў пабочных падаткаў якія накіроўваюцца у народны суд, а ў выпадку, калі справа належыць спыненьню, пракурора. Неаплачаныя акцызам прадметы, а так сама прылады іх вытвору апячатваюцца і або пакідаюцца у прадпрыемствах дзе выяўлена нарушэньне пастановаў аб акцызах, або здаюцца у бліжэйшыя месцы вырабкі ці агульнага гандлю гэткімі прадмэтамі у ва ўсіх выпадках на хаваньне уладароў ці загадчыкаў гэтымі месцамі і пад адпаведнасьць ашчаднікаў. У выпадках немагчымасьці гэткае перадачы выяўленых рэчаў, апошнія перадаюцца на хаваньне органам міліцыі.

Увага. Па пастанове судзебных органаў хуткапсуючыяся прадметы і прадукты могуць быць альбо аддадзены дзяржаўным і коопэратыўным органам па сярэдняй рыначнай цане, альбо праданы з таргоў з залічэньнем утаргованай сумы у дэпозыты губэрскіх грашовых аддзелаў да канчатку справы. У выпадку апраўданьня прыцягненых да адпаведнасьці асобаў, адтрыманыя ад рэалізацыі грошы належаць вярнуць. У пастанове судзебных органаў павінна быць паказана, на якія органы ускладаецца яго выкананьне.

**2.** У выпадку неабходнасьці зрабіць вобыск у памешканьні абвінавачанае ці западозранае асобы, альбо знаходзячыхся у яго ўладаньні ці карыстаньні будынкаў, агэнты інспэкцыі пабочных падаткаў зварочваюцца за дапамогаю да агэнтаў міліцыі і дзеюць у гэтых выпадках на падставе устаноўленых аб вобысках правілаў. У выпадках выяўленьня нарушэньня у момант яго учыненьня, вобыск павінен быць зроблен агэнтамі інспэкцыі пабочных падаткаў або міліцыяй неадкладна.

**3.** Права узбуджэньня судовага перасьледваньня проціў нарушыцеляў пастановаў аб акцызах і падтрыманьня абвінавачваньня на судзе асабіста ці праз упаўнаважаных на тое асобаў, а роўна і аскаржэньне судзебных прыгавораў, рэгулірующа адпаведнымі артыкуламі карна-процэсуальных кодэксаў саюзных рэспублік.

**4.** Пры узбуджэньні судовага перасьледваньня загадчык губэрскім грашовым аддзелам ці старэйшы інспэктар пабочных падаткаў паведамляюць народнаму суду велічыню акцызу і асобнага патэнтнага збору, падлячаючых спагнаньню.

**5.** Адпаведнымі асобамі за нарушэньне пастановаў аб пабочных падатках на заводах, фабріках і ўсякага роду месцах вырабкі і распрацоўкі падлягаючых аплаце

акцызам прадуктаў, а роўна у месцах гандлю імі, калі віноўныя не выяўлены, прызнаюцца у прыватных прадпрыемствах — уладары гэткіх, а у дзяржаўных прадпрыемствах—загадчыкі апошнімі.

Увага. Аснаўныя артыкулы своечасова нявыплачанага акцызу і асобнага патэнтага збору, а так сама пені па ім, калі нарушэньне учынена у месцах вырабкі, здабычы і хаваньня падлягаючых аплаце акцызам прадметаў, а роўна у месцах гандлю імі, у ва ўсіх бяз выключэньня выпадках зварочваюцца на уладароў ці арандатароў прадпрыемстваў. Па дзяржаўным прадпрыемствам, дзеючым на пачатках камэрцыйнага разьлічэньня, спагнаньні у пазаканых выпадках зварочваюцца непасрэдна на гэтыя прадпрыемствы ці на аб'яднаньні, усклад якіх уваходзяць гэтыя прадпрыемствы.

**6.** Акцыз і асобны патэнтны збор, спаганяемыя з нарушыцеляў постановаў аб пабочных падатках, зварочваюцца поўнасьцю у прыбытак казны. З накладаемых на нарушыцеляў штрафаў, а так сама з сумаў, утаргоўваемых ад прадажы канфіскаваных прадметаў, 75% паступаюць у прыбытак казны, а 25% выдаюцца вынаходцам, заяўцам і тым, якія ловяць нарушыцеляў. Сумы не перавышаючыя аднаго рубля золатам, зварочваюцца у прыбытак казны поўнасьцю.

Увага. Па нарушэньням, зьвязаным з незаконным прыгатаваньнем, хаваньнем і збытам сьпіртных напіткаў і сьпірта-утрымліваючых матэр'яў, захоўваецца асобны парадак разьмяркаваньня штрафаў, установлены адпаведнымі пастановамі союзных рэспублік.

II.

Пастанова Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 15 лютага 1923 г. аб парадку накладаньня спагнаньняў за нарушэньне пастановаў аб пабочных падатках (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 14, арт. 183) і адпаведныя законы іншых саюзных рэспублік адмяніць.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 107 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 13 траўня 1924 г.

---

## 167. Аб парадку зацьверджаньня статутаў і рэгістрацыі таварыстваў і саюзаў, не перасьледуючых мэты дабываньня прыбытку і пашыраючых сваю чыннасьць на обшары усяго Саюзу ССР, і аб наглядзе за імі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Проэкты статутаў таварыстваў і саюзаў, не перасьледваючых мэты дабываньня прыбытку і пашыраючых сваю чыннасьць на ўвесь абшар Саюзу ССР, падаюцца установцам на зацьверджаньне у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пры заяве на паперы з паказаньнем імя (ці назвы) і адрасоў установцаў і за іх подпісамі.

**2.** У статуце павінны быць паказаны: 1) назва таварыства ці саюзу, яго мэта і формы дзейнасьці; 2) парадак уступленьня і выбыцьця сяброў; 3) велічыня сяброўскіх узносаў, калі яны установлены, і парадак іх выплаты; 4) склад і будаваньне распарадчых органаў, парадак іх утварэньня і папаўненьня, прадметы іх веданьня і гаданае месца іх знаходжаньня; 5) тэрміны і парадак склікаюньня агульных сходаў (з,ездаў) і прадметы іх веданьня; 6) парадак веданьня дзейнасьці організацыі; 7) парадак з'іначаньня статуту; 8) парадак зліквідаваньня арганізацыі.

Проэкт статуту і заява установцаў падаецца у шасьцёх экзэмплярах.

**3.** Савет Народных Камісараў Саюзу ССР зацьверджае проэкты статутаў, водлуг узгадненьня іх з саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

**4.** З'іначаньні зацьверджанага Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР статуту робяцца у парадка, установленым для яго зацьверджаньня.

**5.** Для пачынаньня дзеяў, прадгледжаных гэтаю пастановаю, арганізацыі на абшары тэй ці іншай саюзнае рэспублікі, зацьверджаныя у вышэйпаказаным парадку статуту падлягаюць рэгістрацыі у органах саюзных рэспублік, ведаючых рэгістрацыяй таварыстваў і саюзаў, ня маючых мэты дабываньня прыбытку у парадку, установленым законадаўствам гэтае саюзнае рэспублікі.

**6.** У сваёй чыннасьці на абшары асобных саюзных рэспублік таварыствы, саюзы і іх аб'яднаньні кіруюцца сваімі статутамі і законамі гэтых рэспублік і правіламі, рэгулюючымі дзейнасьць таварыстваў і саюзаў і нагляд за імі.

**7.** Нагляд за дзейнасьцю прадгледжаных гэтаю пастановаю арганізацыяў ажыцьцяўляецца народнымі камісарыятамі унутраных справаў адпаведных рэспублік.

**8.** Зачыненьне і зліквідаваньне прадгледжаных гэтаю пастановаю таварыстваў, саюзаў і іх об'яднаньняў робіцца у выпадках, прадгледжаных іх статутамі, а роўна водлуг пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**9.** Саветы народных камісараў саюзных рэспублік у выпадку выяўленьня у дзейнасьці таварыстваў і саюзаў нарушэньняў законадаўства Саюзу ССР ці гэтае рэспублікі, прытрымоўваюць дзейнасць гэтых таварыстваў на абшары гэтае рэспублікі, аднproblem часна даводзячы аб гэтым да веданьня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 107 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 13 траўня 1924 г.

---

## 168. Аб забароне на летні пэрыод утварэньня пасяджэньняў з 12 гадзін суботы да 11 гадзін панядзелка.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Прапанаваць усім дзяржаўным органам Саюзу ССР, устанавіць, у працягу летняга пэрыоду 1924 года

з 1 траўня па 1 верасьня 1924 г. парадак, якім забараняецца утвараць усякага роду пасяджэньні з 12 гадзін суботы да 11 гадзін панядзелка.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 107 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 13 траўня 1924 г.

---

## 169. Аб зьмене назвы г. Сімбірску на г. Ульянаўск і Сімбірскае губ. на губэрню Ульянаўскую.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

У азнаку месца нараджэньня У. І. Ульянава-Леніна зьмяніць назву г. Сімбірску на гор. „Ульянаўск“ і Сімбірскую губ.—на губ. „Ульянаўскую“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 112 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 18 траўня 1924 г.

---

## 170. Аб дапамозе коопэрацыйнаму будаўніцтву рабочых памешканьняў.

З мэтаю дапамогі рабочай мешканцовае коопэрацыі у справе будаўніцтва рабочых памешканьняў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Занімаемая у местах (гарадох) непрацоўнымі элемэнтамі жылая плошча абкладваецца мясцовымі саветамі дадаткова зьверх кватэрнае платы і усякага роду збораў падаткам на якую-небудзь мэту для падтрыманьня коопэратыўнага рабочага будаўніцтва.

Велічыня абкладваньня устанаўліваецца пастановамі мясцовых саветаў, але ня звыш 10 руб. у месяц з квадратовага сажня жылое плошчы, занімаемай непрацоўнымі элемэнтамі, пачынаючы з 1 траўня 1924 г. З сабраных праз гэткае абкладаньне сродкаў выдаюцца мясцовымі саветамі льготныя доўгатэрміновыя пазычкі на патрэбы коопэратыўнага рабочага будаўніцтва.

Увага. Пад непрацоўнымі элемэнтамі разумеюцца платнікі прыбыткова-памаентнага падатку, аднесеныя да катэгорыі „В“ (арт. 3 і 7 палажэньня аб прыбыткова-памаентным падатку ад 12 лістападу 1923 г.—Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 11, арт. 317), і усе асобы, знаходзячыяся на іх утрыманьні.

**2.** Пачынаючы з 1 кастрычніка 1924 г. пры спагнаньні прыбыткова-памаентнага падатку з купнасьці прыбыткаў, паколькі яны перавышаюць 1.200 руб. у паўгодзьдзе (апрача запрацаванае платы) устанаўліваецца надбаўка для утварэньня дзяржаўнага фонду доўгатэрміновых пазычак рабочым будаўнічым коопэратывам. Велічыня названае надбаўкі і парадак зкарыстаньня вызначаецца асобнаю пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**3.** З устаноўленых адлічэньняў з чыстага прыбытку дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў (трэстаў) як агульнасаюзнага, гэтак і рэспубліканскага і мясцовага значаньня, у фонд паляпшэньня быту рабочых (пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 28 верасьня 1923 г,—Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 6, арт. 134; пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 25 верасьня 1923 г.—Весьнік ЦВК, СНК і СПА № 6, арт. 154 і пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб адлічэньні з чыстага прыбытку дзярж. прам. прадпрыемстваў у фонд паляпшэньня быту рабочых ад 16 траўня 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 5, арт. 171) вызначаная частка вылучаецца на выдачу доўгатэрміновых льготных пазычак на коопэратыўнае будаўніцтва рабочых памешканьняў, з зваротам варочаемых пазычак і процантаў па ім у фонд рабочага будаўніцтва памешканьняў. Велічыня вылучаемае на паказаную мэту часткі фонду паляпшэньня быту рабочых вызначаецца для прадпрыемстваў агульнасаюзнага значаньня камітэтам дапамогі коопэратыўнаму будаўніцтву рабочых памешканьняў пры народным камісарыяце працы Саюзу ССР (арт. 12) водлуг згоды з вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР; для прадпрыемстваў рэспубліканскага і мясцовага значаньня парадак вызначэньня велічыні памянёнай часткі устанаўліваецца саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

Увага. Адлічэньні, прадгледжаныя гэтым артыкулам, не пашыраюцца на дзяржаўныя прадпрыемствы, увесь прыбытак якіх йдзе у адмысловыя сродкі гэтага ведамству.

**4.** Для дэфіцытных галінаў прамысловасьці і транспарту устанаўліваюцца адмысловыя адлічэньні на патрэбы будаўніцтва рабочых памешканьняў з прыбытку дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў. Велічыня і парадак гэтых адлічэньняў вызначаецца Саветам Працы і Абароны водлуг падачы камітэту дапамогі коопэратыўнаму будаўніцтву рабочых памешканьняў (арт. 12).

**5.** З прыбыткаў мясцовых саветаў ад памешканьняў, здаваемых пад гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы і установы, адлічаецца, пачынаючы з 31 траўня 1924 г., ня меньш 5% на рабочае будаўніцтва памешканьняў гэтае губэрні (ці адпавядаючай ей адміністратыўна-тэрытарыяльной адзінкі).

**6.** Мясцовыя саветы павінны адвадзіць дзяржаўным прадпрыемствам і рабочым будаўнічым коопэратывам на льготных умовах землі пад будаўніцтва рабочых памешканьняў з разьліку ня меньш аднэй дваццатай дзесяціны на пабудоўваемую кватэру, як магчыма у найлі́жэйшай адлеглаcьці ад адпаведных прадпрыемстваў.

**7.** Лес, неабходны непасрэдна для будаўніцтва і абсталяваньня рабочых памешканьняў, адпушчаецца на ільготных пачатках з зваротам папеннае платы у доўгатэрміновыя пазычкі і з вызваленьнем на першыя гады ад чарговых ўзносаў у межах, паказваемых інструкцыяй (арт. 14).

Увага 1. На тых жа пачатках даюцца у патрэбнай колькасьці кар'еры для здабычы каменьня, пяску і гліны.

Увага 2. Адвод лесасек, а так сама кар'ераў павінен рабіцца без нарушэньня зробленых, да выданьня гэтае пастановы, дагавораў.

**8.** Мясцовыя саветы перадаюць па ільготным цэнам і на пачатках доўгатэрміновага крэдыту рабочым мешканцовым коопэратывам нескарыстаныя будынкі, у пасобнасьці—бязлюдныя хаты.

**9.** Рабочыя мешканцовыя коопэратывы і іх саюзы вызваляюцца ад прамысловага і прыбыткова—памаентнага падатку. Зьдзелкі, утвараемыя рабочымі мешканцовымі коопэратывамі і іх аб'яднаньнямі дзеля патрэбаў будаўніцтва, вызваляюцца ад гэрбавага і натарыяльнага збораў.

**10.** Вучасткі, адведзеныя дзяржаўным прадпрыемствам і рабочым будаўнічым коопэратывам пад будаўніцтва рабочых памешканьняў, вызваляюцца ад выплаты аснаўной і дадатковай зямельнай рэнты з дня адводу вучастку да канчатку 3-гадовага тэрміну пасьля узьвядзеньня будынкаў.

**11.** На перавозку лясных і іншых будаўнічых матар'ялаў і частак дзеля пабудаваньня і абсталяваньня рабочых памешканьняў устанаўліваецца ільготны тарыф. Велічыня скідак з дзеючых тарыфаў і парадак іх адданьня устанаўліваецца тарыфным камітэтам пры народным камісарыяце шляхаў зносін і зацьверджаецца Саветам Працы і Абароны.

**12.** Для нагляду за ажыцьцяўленьнем гэтае пастановы і выпрацоўкі мерапрыемстваў да разьвіцьця коопэратыўнага будаўніцтва рабочых памешканьняў пры народным камісарыяце працы Саюзу ССР утвараецца камітэт дапамогі коопэратыўнаму будаўніцтву рабочых памешканьняў. Камітэт дзеіць на падставе палажэньня аб ім, зацьверджаемага Саветам Працы і Абароны Саюзу ССР.

**13.** Саветам народных камісараў саюзных рэспублік у адпаведнасьці з мясцовымі асаблівасьцямі даецца права устанаўліваць адступленьні ад артыкулаў 5 і 6, а роўна вызначаць парадак ужытку артыкулаў 7 і 8 гэтае пастановы.

**14.** Інструкцыя аб ужытку гэтае пастановы выдаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

22 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 111 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 17 траўня 1924 г.

---

## 171. Аб адлічэньні з чыстага прыбытку дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстаў), у фонд паляпшэньня быту рабочых.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Устаноўленыя пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 28 верасьня 1923 года (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 года, № 6, арт. 134) і пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 25 верасьня 1923 года (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 6, арт. 154) адлічэньні з чыстага прыбытку, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстаў), як агульнасаюзнага, гэтак і рэспубліканскага і мясцовага значаньня, у фонд паляпшэньня быту рабочых (будаўніцтва у першую чаргу рабочых памешканьняў рабочых сталовых і інш робяцца, пачынаючы з балянсу на 1 кастрычніка 1923 году, велічынею ня больш 10%.

**2.** З паказанага у арт. 1 фонду адлічваецца вядомая частка на будаўніцтва рабочых памешканьняў. Парадак азначаньня велічыні гэтае часткі устанаўліваецца пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб дапамозе коопэрацыйнаму будаўніцтву рабочых памешканьняу (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, 1924 г, № 5, арт. 170).

**3.** У выключных выпадках, калі істнаваньне або разьвіцьцё прадпрыемства ня можа быць забясьпечана бяз экстрэнных выдаткаў на пабудаваньне памешканьняў, органам, разьмяркоўваючым прыбытак прадпрыемстваў, даецца права павялічваць для гэтае мэты велічыню адлічэньняў у фонд палепшаньня быту рабочых звыш граніцы, паказанай у арт. 1 гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

16 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 111 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 17 траўня 1924 г.

---

## 172. Аб спажывецкай коопэрацыі.

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 28 сьнежня 1923 г. аб рэарганізацыі спажывецкае коопэрацыі на пачатках самахвотнага сяброўства („Известия“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 сьнежня 1923 г.), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

I.

**1.** Усім грамадзянам Саюзу ССР, карыстаючымся, згодна констытуцыям саюзных рэспублік, абіральным правам у саветы, даецца магчымасьць для абслугоўваньня сваіх спажывецкіх і гаспадарчых патрэбаў утвараць спажывецкія таварыствы.

**2.** Уступ грамадзян у сябры таварыства спажыўцоў, роўна як і выхад з яго, зьяўляюцца самахвотнымі.

**3.** Спажывецкім таварыствам для ажыцьцяўленьня мэтаў, прадгледжаных арт. 1, даецца права: а) набываць і збываць прадукты сельскае гаспадаркі саматужна-рамесьнічае і фабрычна-заводскае прамысловасьці; б) пашыраць сярод насельніцтва на камісіённых пачатках вырабы дзяржаўнае і коопэратыўнае прамысловасьці; в) утвараць фермы, паказальныя станцыі і іншыя аналёгічныя установы; г) займацца зборам і перапрацоўкай сыр'я; д) займацца, з мэтаю здавальненьня спажывецкіх патрэбаў сапраўдных сябраў спажывецкіх таварыстваў, а так сама і ўсяго абкружаючага рабоча-сялянскага насельніцтва, вырабам прадуктаў сельскае гаспадаркі і речаў рамесьнічае і фабрычна-заводскае прамысловасьці; е) рабіць гадлёва-пасрэдніцкія і

камісіённыя опэрацыі па збыту прадуктаў працы сваіх сябраў і па здавальненьню іх прыладамі, інструмантамі і матар'яламі, патрабуючыміся у іх гаспадарцы; ж) адчыняць склады дзеля хаваньня прадуктаў працы сваіх сябраў і для адданьня ім у часовае карыстаньне усякага роду прыладаў вытвору; з) рабіць крэдытовыя опэрацыі, адчыняючы дзеля гэтага адмысловыя крэдытныя аддзелы, дзеючыя на падставе устаноўленых правілаў; і) весьці асьветную працу аб пашырэньні ідэяў коопэрацыі і яе мэтаў, асабліва сярод сялянскага насельніцтва, пад агульным кантролем народных камісарыятаў асьветы падлягаючых саюзных рэспублік.

**4.** Спажывецкія таварыствы могуць абслугоўваць і не сяброў таварыства на падставах, устанаўліваемых іх агульнымі сходамі (сходамі упаўнаважаных).

**5.** Найменьшы лік сяброў, пры прысутнасьці якога можа адчыніцца і дзеяць спажывецкае таварыства, азначаецца районным, губэрскім або адпавядаючым яму саюзам спажывецкіх таварыстваў, дастасаваўшы да асаблівасьцяў і быту абслугоўваемага райёну, але ня можа быць меньш 30.

**6.** Капіталы спажывецкіх таварыстваў і іх саюзаў складаюцца з маемасьцяў, паступіўшых у ўласьнасьць памянёных коопэратыўных арганізацыяў пры іх узьнікненьні, з уступных і паевых узносаў, з адлічэньняў ад чыстых прыбыткаў і з іншых паступленьняў.

**7.** Дзеля палягчэньня беднейшему насельніцтву уступу у спажывецкія таварыствы вышэйшая велічыня уступнага ўзносу устанаўліваецца у 50 кап. і паевага— у 5 р. Выплаціўшы уступны ўзнос з гэтага моманту становіцца сябрам таварыства. Дзеля выплаты паевага узносу дапушчаецца выплата у расклад, згодна устанаўліваемых агульным сходам (сходам упаўнаважаных) правілаў.

Увага. Прысутнасьць у сябры таварыства больш аднаго пая не дае яму ніякіх перавагаў у кіраваньні таварыствам і карыстаньні яго паслугамі.

**8.** Перадача паёў сябрамі спажывецкіх таварыстваў не дапушчаецца.

**9.** Кожны сябра спажывецкага таварыства мае права выйсьці з таварыства у парадку, прадугледжаным яго статутам, і патрэбаваць звароту сваіх узносаў і належачага на яго долю прыбытку за вылікам стратаў, якія прыходзяцца на яго долю. Кожны сябра можа быць выключан з таварыства у парадку, паказаным у статуце.

**10.** Ніякія спагнаньні, прад'яўляемыя да сябраў спажывецкага таварыства, ня могуць быць зварочваемы на іх паевыя узносы, паступіўшыя у загад спажывецкага таварыства.

**11.** Органамі кіраваньня спажывецкага таварыства зьяўляюцца агульны сход (сход упаўнаважаных) і кіраўніцтва. Па пастанове агульнага сходу (сходу упаўнаважаных) можа быць так сама утвараем савет. Органам кантроля зьяўляецца рэвізійная камісія.

Увага. Па выраку агульнага сходу (сходу упаўнаважаных) на чале спажывецкага таварыства можа стаяць адна асоба, выпаўняючая абавязкі кіраўніцтва.

**12.** Спажывецкім таварыствам даецца магчымасьць аб'яднацца у районныя, губэрскія ці адпавядаючыя ім саюзы. З дазволу асяродку спажывецкай коопэрацыі саюзных рэспублік могуць быць утвараемы краінныя саюзы.

Саюзы маюць права рабіць усе опэрацыі, прадугледжаныя арт. 3 гэтага дэкрэту, арганізоўваць і інструктыраваць спажывецкія таварыствы, рабіць рэвізыю і усякага роду абсьледваньні ўваходзячых у іх склад коопэрацыйных арганізацыяў, склікаць з'езды і нарады па пытаньням спажывецкае коопэрацыі.

Органы кіраўніцтва саюзаў выбіраюцца сходамі упаўнаважаных ад уваходзячых у іх склад коопэрацыйных арганізацыяў і дзеюць на падставе статутаў саюзаў.

**13.** Статуты спажывецкіх таварыстваў (арт. 1) і іх саюзаў (арт. 12) павінны адпавядаць нармальным статутам, зацьверджаемым саветамі народных камісараў саюзных рэспублік, у адпаведнасьці з гэтым дэкрэтам. Статуты рэгіструюцца у парадку, устанаўліваемым законадаўствам належных саюзных рэспублік.

**14.** Спажывецкія таварыствы, а роўна саюзы спажывецкае коопэрацыі з дня рэгістрацыі іх у устаноўленым парадку (арт. 13) карыстаюцца правамі юрыдычных асобаў і могуць рабіць на абшары усяго Саюзу ССР усе опэрацыі, прадугледжаныя іх статутамі.

**15.** У статуце кожнае спажывецкае коопэрацыйнае арганізацыі (таварыства, саюзу), павінны быць паказаны: а) найменьне арганізацыі; б) район яе дзейнасьці і месцазнаходжаньне кіраўніцтва; в) мэты арганізацыі; г) умовы ўступленьня, выбыцьця і выключэньня сябраў; д) адпаведнасьць сябраў па абавязкам арганізацыі; е) парадак утварэньня капіталаў; ж) велічыня пая і уступнага ўзносу; з) тэрмін і парадак абрэвізаваньня і зацьверджаньня справаздачаў; і) парадак разьмяркаваньня прыбыткаў і стратаў; к) лік сяброў кіраўніцтва, парадак іх абіраньня, паўнамоцтва і тэрмін дзейнасьці кіраўніцтва; л) лік сяброў рэвізыйнае камісіі, парадак іх абраньня, паўнамоцтва і тэрмін дзейнасьці камісіі; м) парадак і тэрмін скліканьня агульных сходаў (сходаў упаўнаважаных), парадак іх працы і складаньня пратаколаў; н) лік сяброў савету, калі ен утваран, парадак іх абраньня, паўнамоцтва і тэрмін дзейнасьці савету; о) умовы і парадак ліквідацыі арганізацыі; п) парадак з'іначаньня статуту.

Усе з'іначаньні і дадаткі статуту павінны быць зарэгістраваны у парадку, азначаным для рэгістрацыі статуту.

**16.** Спажывецкія таварыствы і іх саюзы ліквідуюцца а) водлуг пастановы агульнага сходу сяброў (сходу упаўнаважаных); б) калі лік сяброў таварыства ці саюзу выявіцца меньш патрабуемага статутам ці законам; в) з абвесткаю арганізацыі па суду несталаю; г) у выпадку ухіленьня арганізацыі ад паказанае у статуце мэты, а роўна у выпадку ухіленьня яе дзейнасьці у бок, супраціўны інтарэсам дзяржавы—водлуг пастановы губвыканкаму (ці адпавядаючага яму органу) у адносінах спажывецкіх таварыстваў і водлуг пастановы савету народных камісараў саюзнае рэспублікі— у адносінах губэрскіх, районных, краінных і адпавядаючых ім саюзаў.

**17.** Тэрмін ліквідацыі спажывецкіх коопэрацыйных арганізацыяў не павінен перавышаць аднаго году з дня пастановы аб ліквідацыі. Пастанова аб назначэньні ліквідацыі паведамляецца органу рэгістрацыі і агалашаецца у адпаведнай афіцыяльнай газэце.

Зварот паёў сябрам може быць зроблен не раней пагашэньня даўгоў арганізацыі.

**18.** Аб'яднаньне двух ці некалькіх спажывецкіх таварыстваў або саюзаў з мэтаю павялічэньня робіцца: а) праз зліваньне іх у новае таварыства ці саюз па падставе новага статуту і пад новаю назваю; б) праз уваходжаньне аднэй ці некалькіх арганізацыяў у склад існуючай арганізацыі на падставе статуту апошней і пад яе назваю.

**19.** Аб'яднаньне таварыстваў спажыўцоў ці іх саюзаў робіцца на падставе пастановы агульных сходаў (сходаў упаўнаважаных) злучаючыхся арганізацыяў. На тых жа агульных сходах (сходах упаўнаважаных) павінна быць зацьверджана згода, на падставе якой павінна зрабіцца злучэньне і, апрача таго, у выпадках, прадугледжаных у п. „а" арт. 18, павінен быць прынят статут зноў утвараемай арганізацыі.

**20.** Пастанова аб аб'яднаньні спажывецкіх коопэрацыйных арганізацыяў у 2—тыднёвы тэрмін паведамляецца усім крэдытарам злучаючыхся арганізацыяў, якія могуць у месячны тэрмін з дня адтрыманьня паведамленьня заявіць кіраўніцтвам і органам рэгістрацыі аб сваім пратэсту процiў будучага аб'яднаньня. Пастанова аб аб'яднаньні ўступае ў моц, рэгіструецца і агалашаецца устаноўленым чынам пасьля дасягненьня згоды з заявіўшымі пратэст крэдыторамі.

**21.** З дня рэгістрацыі статуту зноў зьявіўшайся праз злучэньне арганізацыі ці з дню азнакі у сьпісу аб уваходжаньні у існуючую арганізацыю іншых арганізацыяў, усе правы і абавязкі арганізацыяў, спыняючых свае існаваньне, пераходзяць да арганізацыі, зьявіўшайся як вынік злучэньня.

**22.** У саюзных рэспубліках утвараюцца аб'яднаньні спажывецкае коопэрацыі у масштабе рэспублікі. Статуты гэтых аб'яднаньняў зацьверджаюцца саветамі народных камісараў падлягаючых рэспублік.

**23.** Аб'яднаньні спажывецкай коопэрацыі саюзных рэспублік могуць утвараць агульнасаюзнае аб'яднаньне спажывецкай коопэрацыі, статут якога зацьверджаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

II.

Дапоўніць арт. 8 палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 44, арт. 550) увагою наступнага зьместу:

„Спагнаньне ня можа быць зварочваема на паевыя узносы сяброў спажывецкіх таварыстваў".

III.

Прапанаваць цэнтральным выканаўчым камітэтма саюзных рэспублік:

1. Выдаць пералік законаў аб спажывецкай коопэрацыі, утрачваючых моц з выданьнем гэтага дэкрэту.

2. Дапоўніць адпаведныя артыкулы грамадзянска—процэсуальных кодэксаў пастановаю, забараняючаю зварот спагнаньня на паевыя узносы сяброў спажывецкіх таварыстваў па іх даўгам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

20 траўня 1924 году. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 114 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 21 траўня 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Народных Камісараў

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### 173. Аб мерах да упарадкаваньня выплаты падрадчыкамі і дастаўнікамі прамысловага падатку.

У адмену пастановаў СНК РСФСР ад 18 кастрычніка 1922 г. аб падачы ведаў аб падрадах і дастаўках у губэрскія грашовыя аддзелы (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 849) і ад 27 чэрвеня 1923 г. аб абавязковым паказваньні падрадчыкамі і дастаўнікамі належных прамысловых патэнтаў (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 62, арт. 597) і адпаведных законаў іншых саюзных рэспублік Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Усе дзяржаўныя і прыватныя установы і прадпрыемствы абавязаны паведамляць у губэрскія ці адпавядаючыя ім грашовыя адзелы веды аб здадзеных імі падрадах і дастаўках.

**2.** Веды аб зробленых умовах падраду і дастаўкі паведамляюцца у месячны тэрмін з дня утварэньня умовы грашоваму адзелу па месцу знаходжаньня установы ці прадпрыемства, здаўшага падрад ці дастаўку (заказчыка), па форме, устанаўліваемай народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР. У тых выпадках, калі зробленая дзяржаўным органам умова вымагае зацьверджаньня вышэйшае інстанцыі, месячны тэрмін вылічаецца з дня уступленьня умовы ў моц, з прычыны яе зацьверджаньня ці з прычыны неадтрыманьня паведамленьня вышэйшае інстанцыі у устаноўлены тэрмін.

**3.** Усе дзяржаўныя установы і прадпрыемствы, а роўна коопэратыўныя арганізацыі і акцыянэрныя таварыствы, здаўшыя падрад ці дастаўку, не маюць права выплачваць сваім контрагэнтам па падраду ці дастаўцы

якія б там ня было сумы, апрача умоўленага водлуг умовы авансу, без паказваньня падрадчыкам ці дастаўнікам належнага прамысловага патэнту або пасьведчаньня грашовых органаў аб вызваленьні ад выбаркі патэнту.

4. Губэрскім (і адпавядаючым ім) грашовым адзелам даецца права рабіць праз сваіх упаўнаважаных праверку адтрыманых, паказаным вышэй парадкам, ведаў аб падрадах і дастаўках праз агляданьне делаводзтва установаў і прадпрыемстваў.

5. Губэрскім, павятовым (ці адпавядаючым ім) грашовым аддзелам даецца вымагаць ад дзяржаўных і коопэратыўных арганізацыяў і ад акцыянэрных таварыстваў затрыманьня сумаў, належачых для выплаты параўнанага збору з падрадчыкаў і дастаўнікаў, з плацяжоў, належачых падрадчыку ці дастаўніку ад заказчыка.

6. Дзяржаўныя і коопэратыўныя арганізацыі і акцыянэрныя таварыствы павінны рабіць затрыманьні у лік параўнаучага збору ня начы, як у дакладна паказаных належнымі грашовымі органамі (арт. 5) сумах, і пры гэтым толькі з сумаў, бяспрэчна належачых падрадчыку ці дастаўніку, за вылікам з іх усіх прэтэнзіяў самога заказчыка да свайго контрагэнту, адкуль бы гэтыя прэтэнзіі ня выцякалі.

7. Нарушэньне гэтае пастановы караецца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

25 сакавіка 1923 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 103 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 траўня 1924 г.

---

## 174. Аб прадажы і абмене коняў, забракаваных у вайсковых частках і установах рабоча-сялянскае чырвонае арміі.

Для з'іначаньня пастановы СНК РСФСР ад 1 лістападу 1922 г. аб прадажы з аўкцыйнага торгу забракаваных коняў і аб аплаце народным камісарыятам земляробства коняў, вылучаемых з чырвонае арміі (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 75, арт. 930), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Коні, забракаваныя у вайсковых частках і установах чырвонае арміі, як годныя дзеля сельска-гаспадарчае працы, гэтак і нягодныя прадаюцца з аукцыйнага торгу, з дапушчэньнем да яго усіх жадаючых.

2. Грошы, утаргованыя ад прадажы бракаваных коняў, зварочваюцца у адмысловыя сродкі народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам з назначэньнем іх на папаўненьне і асьвяжэньне конскага складу.

3. Воінскім часткам рабоча - сялянскае чырвонае арміі дазваляецца там, дзе водлуг мясцовых умоваў будзе магчыма, рабіць, праз самахвотную згоду з насельніцтвамі, абмен нягодных да службы і забракаваных коняў на коняў, годных да службы.

4. Народнаму камісарыяту па ваенным і марскім справам даручаецца выпрацаваць, водлуг згоды з народным камісарыятам грашовых справаў, інструкцыю аб ужытку гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

5 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 89 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 17 красавіка 1924 г.

---

## 175. Аб замежных камандыроўках па вызнаньню пытаньняў арганізацыі працы, вытворчасьці і кіраваньня.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць кіраўнікоў дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў Саюзу ССР, а так сама усесаюзныя коопэратыўныя і профэсыянальныя аб'яднаньні вытвараць усе, бяз выключэньня, замежныя камандыроўкі з мэтаю вызнаньня пытаньняў арганізацыі працы, вытвору і кіраваньня ня начы, як з дазволу народнага камісарыяту рабоча - сялянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

Установы, прадпрыемствы, а роўна коопэратыўныя і профэсыянальныя аб'яднаньні саюзных рэспублікі павінны выпрашываць адпаведны дазвол у народнага камісарыяту рабоча-сялянскае інспэкцыі гэтае саюзнае рэспублікі.

2. Дзяржаўныя установы і прадпрыемствы, а роўна коопэратыўныя і профэсыянальныя аб'яднаньні павінны падаваць рабоча-сялянскай інспэкцыі справаздачы па ўсім паказаным у арт. 1 замежным камандыроўкам.

3. Інструкцыі аб ужытку гэтае пастановы, у паасобнасці, інструкцыі аб парадку і умовах дачы замежных камандыровак на доўгі час, паказаных у арт. 1, выдаюцца народным камісарыятам рабоча-сялянскай інспэкцыі Саюзу ССР, водлуг згоды з зацікаўленымі ведамствамі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

8 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 89 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 17 красавіка 1924 г.

---

## 176. Аб пачатковым тэрміне аднасеньня выдаткаў па раскватараваньню войскаў на мясцовыя сродкі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выдаткі па раскватараваньню войскаў рабоча-сялянскай чырвонай арміі і флёту, як па найму памешканьняў, асвятленьню, даставе вады і утрыманьню памешканьняў чыстымі, зьнятыя з дзяржаўнага бюджэту на падставе пастановы СНК ад 18 красавіка 1922 г., павінны лічыцца аднесенымі на мясцовыя сродкі з 1 красавіка 1922 г., г. ё. з дня фактычнага выключэньня іх з росьпісу дзяржаўных выдаткаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

19 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 101 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 6 траўня 1924 г.

**177. Палажэньне аб адміністратыўна-грашовай камісіі пры Савеце Народных Камісараў Саюзу ССР (у адмену палажэньня ад 9 кастрычніка 1923 г.—Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 7, арт. 207).**

1. Дзеля папярэдняга разьвязку пытаньняў, падлягаючых зацьверджаньню Савету Народных Камісараў або Савету Працы і Абароны Саюзу ССР, пералічаных у арт. 2 гэтага палажэньня, пры СНК Саюзу ССР знаходзіцца адміністратыўна-грашовая камісія.

2. Веданьню адміністратыўна-грашовай камісіі СНК Саюзу ССР падлягаюць: асобныя пытаньні, зьвязаныя з складаньнем і выкананьнем бюджэту, пытаньні зьверхкаштарысных асігнаваньняў, пытаньні бягучага падатковага заканадаўства, справа аб накладаньні дысцыплінарных спагнаньняў на ўрадавых асобаў, разьвязак разгалосьсяў па асобным пытаньням бягучае працы паміж ведамствамі, разгляданьне скаргаў, на пастановы тарыфнага камітэту пры народным камісарыяце шляхаў зносін, зацьверджаньне штатаў народных камісарыятаў, і установаў Саюзу ССР, назначэньне ўрадавых асобаў і іншыя пытаньні, падлягаючыя, у парадку агульнага кіраваньня, зацьверджаньню СНК або СПА Саюзу ССР, водлуг належнасьці, і перадаваемыя СНК, СПА ці іх старшынею на разгляданьне адміністратыўна-грашовае камісіі.

Увага 1. Пытаньне аб кірунку пастановаў адміністратыўна-грашовае камісіі на зацьверджаньне СНК ці СПА дазваляецца камісіяй, на падставе дзеючых законапалажэньняў.

Увага 2. Пытаньні, пералічаныя у арт. 2, могуць ставіцца на павестку СНК і СПА без папярэдняга агляданьня іх у адміністратыўна-грашовай камісіі.

3. Адміністратыўна-грашовая камісія складаецца з старшыні і сямі сябраў, пэрсанальна назначаемых Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

4. Пасяджэньні камісіі лічуцца сапраўднымі пры прысутнасьці ня меньш 4 сябраў, у тым ліку і старшыні.

5. Парадак занясеньня пытаньняў на разгляданьне адміністратыўна-грашовае камісіі азначаецца наказам Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу ССР.

6. Да разбору справы вызываюцца дакладчыкі ад зацікаўленых ведамстваў, якія павінны мець мандат за подпісам старшыні ведамству і выказваць афіцыяльны погляд ведамству па разглядаемаму пытаньню. У выпадку неяўкі вызваных дакладчыкаў, справа можа разьбірацца у іх адсутнасьці.

Увага. У выпадку патрэбы, на пасяджэньне адміністратыўна-грашовае камісіі вызываюцца прадстаўнікі зацікаўленых саюзных рэспублік.

7. Усе пытаньні разьвязваюцца у адміністратыўна-грашовай камісіі простай большасьцю галасоў. Калі галасы разаб'юцца на роўныя часткі пытаньне пераносіцца у СНК Саюзу ССР або СПА, водлуг належнасьці.

8. Сябры камісіі, ня згодныя з прынятаю пастановаю, маюць права выказаць на паперы асобнае зданьне, дадаваемае да пратаколу.

9. Права апратаставаньня пастановы адміністратыўна-грашовае камісіі належыць сябрам СНК і СПА Саюзу ССР, старшыням цэнтральных выканаўчых камітэтаў і саветаў народных камісараў саюзных рэспублік і іх паўнамоцным прадстаўнікам, кіраўніку цэнтральным статыстычным упраўленьнем, старшыні дзяржаўнай агульнаплянавай камісіі, старшыні галоўнага концэсыйнага камітэту, старшыні Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня, старшыні усерасійскага цэнтральнага савету професыянальных саюзаў, старшыні цэнтрасаюзу. Пратэст павінен быць падан праз адміністратыўна-грашовую камісію не пазьней 48 гадзін з моманту прыняцьця пастановы.

Увага. У выпадку, калі у паказаны тэрмін паступіць пратэст ад прадстаўніка саюзнае рэспублікі, СНК Саюзу ССР разглядае пытаньне аб пратэсту не раней, чым праз тыдзень, да гэтага тэрміну СНК адпаведнае саюзнае рэспублікі павінен падаць падрабязную матывіроўку пратэсту.

10. Прынятыя адміністратыўна-грашовай камісіяй і не апратаставаныя у парадку арт. 9 пастановы, зацьверджаюцца СНК або СПА, водлуг належнасьці, пасьля чаго адтрымоўваюць моц пастановы СНК або СПА.

Калі старшыня СНК ці СПА ня згодзен з пастановаю адміністратыўна-грашовай камісіі або лічыць неабходным перадаць яе на разгляданьне СНК ці СПА, пытаньне пераносіцца у СНК ці СПА.

Увага 1. Пастановы распарадчага характару уступаюць у моц зараз жа пасьля падпісаньня іх старшынёю і сябрамі адміністратыўна-грашовае камісіі.

Увага 2. Апратаставаныя пастановы аб зьверх каштарысных асігнаваньнях павінны быць зараз жа выкананы народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР у тэй часцы, па якой народным камісарыятам грашовых справаў з зацікаўленымі ведамствамі дасягнена згода.

11. Для ажыцьцяўленьня сваіх задачаў адміністратыўна-грашовай камісіі даецца права ускладаць на ведамствы і асобныя установы, пад адпаведнасьцю іх кіраўнікаў, дадатковую распрацоўку пытаньняў, знаходзячыхся на разгляданьні адміністратыўна-грашовай камісіі, падгатоўку і падачу неабходных матар'ялаў і ведаў.

12. Прыняцьце мераў распарадчага характару па арганізацыі працы адміністратыўна-грашовай камісіі, разьмяркаваньне справы для дакладаў і іншых абавязкаў паміж сябрамі камісіі, запатрабаваньне ад саюзных рэспублік, ведамстваў і ўсіх установаў Саюзу усякага роду матэр'ялаў, ведаў, а так сама разьвязаньне усяе справы аб выкананьню загадаў СНК і СПА у адміністратыўна-грашовай камісіі, робяцца старшынёю адміністратыўна-грашовай камісіі, загады якога абавязковы як для сяброў адміністратыўна-грашовай камісіі гэтак і для ўсіх установаў і ўрадавых асобаў Саюзу ССР.

13. Пры адміністратыўна-грашовай камісіі знаходзіцца сэкратарыят дзеля падгатоўкі справы да разбіраньня,

вядзеньня і выкананьня пратаколаў пасяджэньняў, а так сама выпаўненьня даручэньняў старшыні камісіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

22 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 96 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

---

## 178. Аб адмене пастановы СНК РСФСР ад 14 чэрвеня 1923 г. аб прэміраваньні супрацоўнікаў НКХ за выяўленьне у пачтовых адпраўках прадметаў, вынятых з прыватнага звароту.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Пастанову СНК РСФСР ад 14 чэрвеня 1923 г. аб прэміраваньні супрацоўнікаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў за выяўленьне у пачтовых адпраўках прадметаў, вынятых з частнага звароту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 57, арт. 557),—адмяніць.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

23 красавіка 1924 г. Масква—Кремль.

---

## 179. Аб канфіскацыі недазволеных укладаньняў у пачтовых адпраўках і накладаньні спаганьняў органамі НКХ за нарушэньне пачтовых пастаноў.

**1.** Калі у пачтовую адпраўку укладзены забароненыя да перасылкі по почце ўзрыўчатыя, хутка загараючыяся або едкія матэр'і, а гэтак сама кіслоты, дык уся пачтовая адпраўка конфіскуецца, а адпраўнік яе прыцягваецца да карнае адпаведнасьці водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

**2.** Канфіскацыі падлягаюць пачтовыя адпраўкі з укладаньнем жыжкаў і матэр'яў, лёгка пераходзячых у жыжку, сыропау, канфітуры, маслаў, тлустасьцяў, фарбаў, цэлюлёіда і вырабаў з яго, калі у такіх адпраўках забаронена перасылаць памянёныя матэр'і, або яны перасылаюцца з нарушэньнем устанаўліваемых народным камісарыятам почт і тэлеграфаў асобных правілаў укупаркі і зашываньня.

**3.** Канфіскацыі падлягаюць пачтовыя адпраўкі, з укладаньнем перасылаемых без належнага дазволу аружжа, воінскага узбраеньня, лётных апаратаў, тэлеграфнае і радыётэлеграфнае маемасьці, ануліраваных каштоўных папераў, сьпіртных напіткаў, не дазволеных да вольнае прадажы, і моцнае атруты.

**4.** Калі у пачтовых адпраўках, паказаных у артыкулах 1, 2 і 3, будуць знайдзены лісты, дакуманты ці іншыя паперы, дык яны выдаюцца адтрымальніку ці адпраўніку, выказаўшым згоду прыняць іх, са спаганьнем належачагася з гэтага укладаньня збору, водлуг вагі па таксе для лістаў, але у пяць разоў больш.

**5.** Падлягаюць канфіскацыі залатыя і сярэбраныя грошы дарэвалюцыйных узораў, знайдзеныя у якіх бы там ня было пачтовых адпраўках.

**6.** За перасылку па почце грошаў, маючых зварот на абшоры Саюзу ССР, у паасобнасьці—банкнот (чырвонцаў), у пачтовых адпраўках, у якіх гэткая перасылка не дазволена правіламі народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў, калі перасылаемая сума перавышае 25 руб. у залатым вылічэньні, канфіскуецца 25% перасылаемае сумы.

У тых выпадках, калі перасылаемая з нарушэньне правілаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфа сума не перавышае 25 руб., а роўна пры выяўленьі перасылкі грошаў у прастым лісьце на якім маецца надпіс аб укладаньні грошаў, уся перасылаемая сума выдаецца адтрымальніку поўнасьцю, з спаганьнем з яго належачага забясьпечанага збору у падвойнай велічыні.

У в а г а. Грошы, перасылаемыя у укладаньнях, падлягаючых канфіскацыі згодна арт. 1, 2 і 3 гэтае пастановы, у ва усіх выпадках поўнасьцю канфіскуюцца.

**7.** За укладаньне у пасылку лісту, маючага характар бягучае перапіскі, з адтрымальніка, а калі ён адмовіцца прыняць гэткую адпраўку, дык з адпраўніка спаганяецца належачы з гэтага лісту збор водлуг вагі і па таксе для лістаў, але у пяць разоў больш.

У в а г а. Устаноўлены гэтым артыкулам штраф спаганяецца і ў тым выпадку, калі ліст, маючы характар бягучае перапіскі, поўнасьцю аплачан пачтовымі маркамі, адпаведна вазе яго, з залікам сумы гэтых марак.

**8.** Пры выявё перасылкі у бандэрольнай адпраўцы, аплачанай водлуг таксы дзеля друкаваных твораў, візытнае ці фатаграфічнае карткі, на якой, замест дапушчаемых пачтовымі правіламі кароткіх (ня больш 5 слоў) прывітаньняў ці віншаваньняў, зроблены больш доўгія надпісы, калі гэта картка складае усе укладаньне бандэрольнае адпраўкі, апошняе разглядаецца, як ліст і за яго спаганяецца устаноўлены даплатны збор, як за ліст (да поўнае аплаты забясьпечанага лісту); калі ж картка складае частку укладаньня, спаганяецца даплатны збор толькі водлуг вагі самой візытнай ці фатаграфічнай карткі.

**9.** За укладаньне у бандэрольную адпраўку якіх-небудзь прадметаў (апрача пералічаных у арт. 1, 2, 3, 5, 6 і 8), недазволеных да перасылкі у гэтых адпраўках, з адтрымальніка, а калі ён адмовіцца прыняць гэткую бандэрольную адпраўку, дык з адпраўніка спаганяецца належачы з гэтых прадметаў збор водлуг вагі па таксе для лістаў, але у пяць разоў больш.

**10.** Калі асобаю, якая служыць у дзяржаўнай установе, карыстаючайся правам дарэмнае перасылкі пачтовых адправак, будзе пераслана у дарэмнай службовай пачтовай адпраўцы ці пад выглядам гэткае адпраўкі ліст прыватнага характару, дык з паказанае асобы спаганяецца збор водлуг вагі, належачы з недазволенага укладаньня, па таксе для лістаў, але у дзесяць разоў больш.

За недазволеную ж перасылку у памянёных пачтовых адпраўках іншых рэчаў і грошаў, гэтыя рэчы і грошы конфіскуюцца поўнасьцю.

Апрача гэтага, аб выяўленым факце незаконнае перасылкі у дарэмнай служэбнай адпраўцы лісту, рэчаў ці грошаў паведамляецца кіраўнік належнае установы, дзеля прыцягненьня нарушыцеля да адпаведнасьці у дысцыплінарным ці карным парадку.

**11.** Калі нарушэньнем установленых народным камісарыятам почт і тэлеграфаў правілаў перасылкі тых ці іншых матэр'яў і прадметаў зроблены страты пачтова-тэлеграфнаму ведамству, адпраўнік абавязан зьвярнуць гэтыя страты у агульным парадку.

**12.** Аб кожным нарушэньні, прадугледжаным гэтаю пастановаю, складаецца акт з паказаньнем у ім месца, часу і абставінаў выяўленьня нарушэньня і сутнасьці апошняга.

**13.** Загады органаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў, пасьледаваўшыя на падставе гэтае пастановы, могуць быць аскаржаны: а) у адносінах канфіскацыі—у агульным судовым парадку, б) у адносінах накладаньня штрафаў—начальніку належнае акругі народнае сувязі, па установам жа, пад'уладным маскоўскаму пачтамту,—загадчыкам апошніх.

**14.** З укладаньнем пачтовых адправак, канфіскаваных згодна гэтае пастановы, органы народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў паступаюць на падставе дзеючых правілаў аб неразданых пачтовых адпраўках.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
23 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 180. Аб ліквідацыі камісіяў пры народных камісарыятах і цэнтральных установах Саюзу ССР.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Ніжэйнаступныя ведамсьцьвеныя і паміжведамсьцьвеныя камісіі пры народных камісарыятах і цэнтральных установах Саюзу ССР падлягаюць ліквідацыі:

### А. Пры народным камісарыяце рабоча-сялянскае інспэкцыі.

1) Камісія па выпрацоўцы палажэньняў і інструкцыяў аб адпаведнасьці урадавых асобаў у дзяржаўнай службе.

2) Камісія па аб'яднаньню усіх гэодэзычных і тографічных установаў Саюзу ССР.

3) Камісія па выпрацаўцы календарных плянаў і рабочых праграмаў дзеля органаў народнага камісарыяту рабоча-сялянскае інспэкцыі.

4) Камісія па разьмяркаваньню супрацоўнікаў паміж народным камісарыятам рабоча-сялянскай інспэкцыі Саюзу ССР і народным камісарыятам рабоча-сялянскай інспэкцыі РСФСР і па азначэньню пэрсанальных ставак.

5) Камісія па устанаўленьню рацыёнальных спосабаў выданьня інфармацыёных бюлетэняў народнага камісарыяту рабоча-сялянскай інспэкцыі.

6) Камісія па рээрганізацыі інфармацыёна-выдавецкага аддзелу народнага камісарыяту рабоча-сялянскай інспэкцыі.

7) Паміжведамсьцьвеная камісія па пытаньням аб мерапрыемствах для упарадкаваньня выплаты запрацаванае платы.

8) Сталая нарада бухгальтэраў наркаматаў.

9) Паміжведамсьцьвеная камісія па пытаньню аб асьведамленьні рабочых масаў аб гаспадарчых дасягненьнях Саюзу ССР.

10) Паміжведамсьцьвеная камісія па ўвядзеньню навуковае арганізацыі працы у сыстэму школаў фабзавуча.

11) Паміжведамсьцьвеная камісія па разгляданьню палажэньняў аб рэвізыйных камісіях вышэйшага савету народнае гаспадаркі і формаў узаёма-адносінаў органаў рабоча-сялянскае інспэкцыі з рэвізыйнымі камісіямі ведамстваў.

12) Паміжведамсьцьвеная камісія па разгляданьню рэвізыйных матар'ялаў па абсьледаваньню грашоварахункоўвага аддзелу дзяржаўнага аб'яднаньня машынабудаўнічых заводаў.

13) Паміжведамсьцьвеная нарада па складаньню тыповага дагавору на будаўнічую працу і інструкцыяў да яе.

14) Часовае паміжведамсьцьвенае бюро па стандартызацыі.

15) Паміжведамсьцьвеная камісія па заключэньню аб справаздачы прафэсара Ламаносава аб дзейнасьці быўшае чыгуначнае камісіі. Тэрмін 3 тыдні.

16) Паміжведамсьцьвеная камісія аб перадачы каспійскага дзяржаўнага параходзтва акцыянэрнаму таварыству „Касьпійскае параходзтва".

17) Паміжведамсьцьвеная камісія па абсьледаваньню пагрузачна-разгрузачнае працы на чыгуначным транспарце.

18) Паміжведамсьцьвеная камісія па выпрацаўцы арганізацыйных формаў кіно-прамысловасьці. Тэрмін 1 месяц.

19) Паміжведамсьцьвеная камісія па пытаньню аб ліквідацыі задсўжанасьці транспосэкцыі.

20) Паміжведамсьцьвеная камісія па абследаваньню баўнаводзтва і ірыгацыі Туркестану.

21) Паміжведамсьцьвеная камісія па перадачы ад Моркому і ЦФК Дзяржсудн'пад'ему НКШЗ вадалазнаратункоўвае і суднапад'емнае маемасьці. Тэрмін 1 месяц.

### Б. Пры народным камісарыяце замежных справаў.

1) Паміжведамсьцьвеная камісія па пераглядаьню межаў з Пэрсіяй. Тэрмін 6 тыдняў.

2) Паміжведамсьцьвеная камісія па сьцягам і вымпелам Саюзу ССР.

### В. Пры народным намісарыяце грашовых справаў.

1) Камісія Савету Працы і Абароны Саюзу ССР па выяўленьню разьлікаў народнага камісарыяту замежнага гандлю з народным камісарыятам грашовых справаў за 1920—23 г.г. Тэрмін 2 месяцы.

2) Камісія па гісторыі залатога фонду.

3) Камісія па распрацоўцы прынцыпаў і формаў справаздачы па выкананьню золата-валютнага каштарысу.

4) Асобная нарада па абмену сапсутых грашовых знакаў.

5) Гаспадарчая камісія пры упраўленьні працоўнымі скарбніцамі аппчаднасьці.

6) Камісія па разгляданьню скаргаў пры упраўленьні працоўнымі скарбніцамі ашчэднасьці.

7) Камісія па выяўленьню стратаў у скарбніцах ашчэднасьці, з прычыны пралікаў, кражаў, перадачаў і г. п.

8) Штатная камісія галоўнага кіраўніцтва дзяржаўнае забясьпекі.

9) Камісія для складаньня каштарысу дзяржаўнага банку на 1923—1924 г.г.

10) Камісія па выдачы дапамогаў і авансаў супрацоўнікам дзяржаўнага банку.

11) Тэхнічная камісія па выпрацоўцы палажэньняў кіраўнічага характару, датыркаючыхся чыннасьці дзяржаўнага банку.

12) Паміжведамсьцьвеная камісія па азначэньню крэдытаў на скуплю золата і плаціны.

13) Паміжведамсьцьвеная камісія па разьлікам з металторгам.

14) Адмысловая паміжведамсьцьвеная котыравальная камісія, утвораная пастановаю СПА РСФСР ад 25 жніўня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 55, арт. 692).

### Г. Пры народным камісарыяце почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

1) Кодыфікацыйная камісія.

2) Мэтрычная камісія.

3) Камісія па інвэнтарызацыі народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

4) Умоўная камісія.

5) Камісія па выпрацаўцы рахаўніцтва і рахунковасьці народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

6) Паміжведамсьцьвеная камісія па разгляданьню каштарысных матар'ялаў з месцаў і па складаньню каштарысу народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

### Д. Пры народным камісарыяце шляхаў зносін Саюзу ССР.

1) Асобная нарада па змаганьню з безгаспадарнасьцю і дэфіцытнасьцю шляхаў Саюзу ССР. Тэрмін 2 месяцы.

2) Цэнтральная дзяржаўная выпытваючая камісія на годнасьць інжынэра азначанае спэцыяльнасьці.

3) Рэдакцыйная камісія па выпрацаўцы мобілізацыйных правілаў.

4) Кантрольна-распарадчая камісія па утварэньню мобзаказаў.

5) Номенклятурная камісія.

6) Камісія па абсьледаваньню грашова-рахунковае працы усіх портаў. Тэрмін 1 месяц.

7) Мэтрычная камісія.

8) Камісія па перагляданьню справы цэнтральных і мясцовых камісіяў па нацыяналізацыі гандлёвага флёту і звароту суднаў быўшым уладарам.

9) Часовая паміжведамсьцьвеная узгадняючая камісія па упарадкаваньню задоўжанасьці народнага камісарыяту шляхаў зносін.

### Е. Пры народным камісарыяце замежнага гандлю Саюзу ССР.

1) Умоўная камісія пры упраўленьні урэгуліраваньня. Тэрмін 1 месяц.

### Ж. Пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

1) Камітэт па разьмяркаваньню экскаватараў.

2) Камісія па абсьледаваньню сындыкатаў.

3) Камісія па устанаўленьню алюмініевай вытворчасьці у Саюзе ССР.

4) Камісія па складаньню і выданьню атласу гідраэлектрычных установак.

5) Камісія па выпрацаўцы вызначанага палажэньня на электра мантажную працу.

6) Камісія па уніфікацыі электра-вырабаў.

7) Сьпіртавая камісія.

8) Тэхнічная камісія па ацэнцы аўта-маемасьці, здаваемай трэстамі, сындыкатамі і іншымі аб'яднаньнямі.

9) Камісія па пытаньням сталых земляных масаў.

10) Камісія па разгляданьню імпартных заявак на мэталічныя вырабы дзеля прывозу з-за кардону.

11) Камісія па разгляданьню умоваў аб здачы у арэнду і дэнацыяналізацыі прадпрыемстваў поліграфічнага вытвору.

12) Камісія па учоту і разьмяркаваньню маемасьці ліквідуемых чыгуначных лініяў і галінаў.

### З. Пры народным камісарыяце працы Саюзу ССР.

1) Камісія па складаньню інфармацыйнага зборніка па пытаньням працы для закардону.

2) Камісія па складаньню параўнаўчае схэмы па заканадаўству аб працы у нас і закардонам.

3) Камісія па выданьню перакладнае літэратуры па працоўному праву капіталістычных стран.

4) Камісія па складаньню юрыдычнага бюлетэня (штомесячнік) аб працоўным законадаўстве і палажэньні працы у капіталістычных странах.

5) Паміжведамсьцьвеная камісія па вывучваньню працы працаўнікоў мастацтва і сцэны.

6) Паміжведамсьцьвеная нарада па пытаньню скарыстаньня матар'ялаў водлуг пераўчоту спэцыялістаў тэхнікаў.

7) Цэнтральная паміжведамсьцьвеная камісія па перагляданьню нормаў спэцадзежы.

8) Паміжведамсьцьвеная камісія па перагляданьню законапалажэньняў аб рабочым дні і учоце рабочага дня на чыгуначным транспарце.

9) Паміжведамсьцьвеная камісія па рацыянальнаму пабудаваньню наборных касаў.

10) Цэнтральная паміжведамсьцьвеная камісія па вывучваньню шкоднасьцяў працы горнарабочых.

11) Паміжведамсьцьвеная камісія па вывучваньню санітарных умоваў працы тэкстыльнага вытвору.

12) Паміжведамсьцьвеная камісія па вывучваньню хімічнае прамысловасьці.

### І. Пры цэнтральным статыстычным упраўленьні.

1) Унутраная камісія па вытвору усерасійскага гараздкога перапісу 1923 г.

2) Камісія па пытаньням раёніраваньня.

3) Камісія па пытаньню аб вылічэньні колькасьці жывёлы за 1923—1924 сельска-гаспадарчы год.

4) Паміжведамсьцьвеная камісія па разгляданьню

будучага хлеба-фуражнага бюджэту рэспублікі на 1923—1924 сельска-гаспадарчы год.

**2.** Пералічаныя камісіі падлягаюць ліквідацыі зараз жа па агалашэньні гэтае пастановы, паколькі у арт. 1 не паказан асобна тэрмін ліквідацыі тэй ці іншай камісіі.

**3.** Народнаму камісарыяту рабоча-сялянскае інспэкцыі Саюзу ССР даручаецца у працягу двух месяцаў пераглядзець камісіі пры камісарыятах і цэнтральных установах Саюзу ССР, не зліквідаваныя гэтаю пастановаю, у кірунку скарачэньня іх колькасьці і перадачы іх функцыяў падлягаючым упраўленьням і аддзелам, і увайсьці у СНК і СПА Саюзу ССР, водлуг належнасьці, з падачаю аб ліквідацыі тых з памянёных камісіяў, якія утвораны пастановаю СНК і СПА, а роўна тых, аб ліквідацыі якіх ня будзе дасягнена згода з падлягаючымі ведамствамі.

**4.** Наўперад утварэньне паміжведамсьцьвеных камісіяў пры народных камісарыятах і цэнтральных установах Саюзу ССР дапушчаецца толькі па пастанове ЦВК, СНК ці СПА Саюзу ССР.

**5.** Народнаму камісарыяту рабоча-сялянскае інспэкцыі Саюзу ССР даручаецца распрацаваць пытаньне аб парадку утварэньня ведамсьцьвеных камісіяў і занясьці адпаведны проэкт на зацьверджаньне СНК Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
23 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 181. Аб бязмытным прывозе у Саюз ССР у 1924 гаду фільдэкосавых сецяў і баўнянапапяровых невадных дзеляў.

Для вынятку з мытнага тарыфу па эўрапэйскаму прывознаму гандлю, зацьверджанага СНК Саюзу ССР 8 студзеня 1924 г., Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дапусьціць у 1924 г. бязмытны прывоз з-за кардону:

а) фільдэкосавых сецяў з ячэяк да 32 м/м. уключна, з ніцяў не таўсьцей № 60/6 у агульнай за год колькасьці ня звыш аднэй тысячы пяцідзесяці пудоў;

б) баўнянапапяровых невадных дзеляў з ячэяк да 20 м/м. у агульнай за год колькасьці ня звыш двух тысячаў пудоў;

в) баўнянапапяровых невадных сецяў з ячэяк звыш 20 м/м. і да 30 м/м. у агульнай за год колькасьці ня звыш аднэй тысячы пяцідзесяці пудоў.

**2.** Даручыць мытна-тарыфнаму камітэту выдаць правілы аб ужываньні гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
23 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 182. Аб фондзе профтэхнічнае адукацыі працаўнікоў сувязі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў устанавіць на 1923—1924 бюджэтны год наступныя мэтавыя зборы у фонд профэсыянанальна-тэхнічнае адукацыі працаўнікоў сувязі:

**1.** За квіткі, выдаваемыя пры падачы тэлеграмаў і сьпешнае почты,—па 2 капейкі.

**2.** За квіткі паветранае почты—па 5 капеяк.

**3.** За квіткі, выдаваемыя пры падачы забясьпечаных адправак і пасылак,—па 1 капейцы.

**4.** За квіткі, выдаваемыя пры падачы грашовых пераводаў і лістаў,—па 2 капейкі.

**5.** За квіткі аб прыёму платы з абанентаў за карыстаньне тэлефонам—па 20 капеяк.

**6.** За квіткі аб прыёму платы за паміжгародныя тэлефонныя перагаворы—па 5 капеяк.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
3 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 104 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 траўня 1924 г.

## 183. Аб тэрміне зьдзейсьненьня арт. 16 мытнага тарыфу па адпускному гандлю.

Дзеля зіначаньня пастановы СНК Саюзу ССР ад 17 студзеня 1924 г. аб зацьверджаньні мытнага тарыфу па адпускному гандлю, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Арт. 16 мытнага тарыфу па адпускному гандлю ўводзіцца ў дзейнасьць 31 студзеня 1924 г.

**2.** Мыты фактычна спагнаныя за насеньне, вывезенае да 1 лютага 1924 г., звароту не падлягаюць.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
3 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 184. Таксы на перасылку пасылак.

Для з'іначаньня падзелу VI таксаў за перасылку пачтовых адправак, дададзеных да пастановы СНК і СПА Саюзу ССР ад 14 жніўня 1923 г. аб ўвядзеньні новых у цьвердых адзінках (капейках) таксаў на аплату усіх выглядаў пачтовых тэлеграфных і радыётэлеграфных адправак і паслугаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 4, арт. 101), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Увясьці з 1 чэрвеня 1924 г. наступныя таксы збораў за пасылкі:

а) Збор водлуг вагі і адлегласьці за кілёграм:

| | |
|---|---|
| Да 100 кілёмэтраў | 1,5 кап. |
| звыш 100 да 150 | 2,5 „ |
| „ 150 „ 200 | 3,5 „ |
| „ 200 „ 300 | 5 „ |
| „ 300 „ 400 | 6,5 „ |
| „ 400 „ 500 | 7,5 „ |
| „ 500 „ 600 | 7,5 „ |
| „ 500 „ 700 | 10 „ |
| „ 700 „ 800 | 11,5 „ |
| „ 800 „ 900 | 12,5 „ |
| „ 1000 „ 1100 | 15 „ |
| „ 1100 „ 1200 | 16 „ |
| „ 1200 „ 1400 | 17,5 „ |
| „ 1400 „ 1600 | 19 „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| звыш 1600 | да 1800 | 20,5 | кап. |
| „ 1800 | „ 2000 | 22,5 | „ |
| „ 2000 | „ 2200 | 24 | „ |
| „ 2200 | „ 2400 | 25,5 | „ |
| „ 2400 | „ 2600 | 27 | „ |
| „ 2600 | „ 2800 | 29 | „ |
| „ 2800 | „ 3000 | 30,5 | „ |
| „ 3000 | „ 3200 | 32 | „ |
| „ 3200 | „ 3400 | 33,5 | „ |
| „ 3400 | „ 3600 | 35 | „ |
| „ 3600 | „ 3800 | 36,5 | „ |
| „ 3800 | „ 4000 | 37,5 | „ |
| „ 4000 | „ 4200 | 39 | „ |
| „ 4200 | „ 4400 | 40 | „ |
| „ 4400 | „ 4600 | 41,5 | „ |
| „ 4600 | „ 4800 | 42,5 | „ |
| „ 4800 | „ 5100 | 44 | „ |
| „ 5100 | „ 5400 | 45 | „ |
| „ 5400 | „ 5700 | 46,5 | „ |
| „ 5700 | „ 6000 | 47,5 | „ |
| „ 6000 | „ 6300 | 49 | „ |
| „ 6300 | „ 6600 | 50,5 | „ |
| „ 6600 | „ 7000 | 52,5 | „ |
| „ 7000 | | 60 | „ |
| Мінімальны збор водлуг вагі за пасылку | | 25 | „ |

Увага 1. Адлегласьць для азначэньня збору водлуг вагі вылічаецца пры перасылцы з аднае губэрні (краіны) у другую—водлуг адлегласьці паміж губэрнскімі (краінымі) гарадамі; пры перасылцы у межах аднэй губэрні (краіны)—водлуг адлегласьці паміж павятовымі гарадамі; пры перасылцы у межах аднаго павету — водлуг сапраўднае адлегласьці паміж пунктамі падачы і назначэньня.

Увага 2. Плата у вышэйпаказанай велічыні спаганяецца з тых пасылак, якія абменьваюцца выключна паміж пры-чыгуначнымі пачтова-тэлеграфнымі установамі (прычым за пад'ездныя сельскія перавозкі паказаны у п. „б" дадатковы збор не спаганяецца), ці перавозяцца толькі па трактам, бяз удзелу чыгунак.

б) Дадатковы збор водлуг вагі за трактавую перавозку:

З тых пасылак, у перавозцы якіх прымаюць удзел і чыгункі і пачтовыя тракты, за перавозку іх гужам у месцы падачы ці месцы назначэньня спаганяецца дадатковы збор з кожнае пасылкі — 10 кап., а калі трактавая перавозка робіцца у абодвух канцах, дык— 20 кап.

Плата спаганяецца з адпраўніка пры падачы пасылкі.

в) За пасылкі партыямі (звыш 3 адначасна здаваемых пасылак ад аднаго адпраўніка аднаму адрасату, здаваемых на почту у пачтова-тэлеграфных установах, знаходзячыхся на трактах на адлегласьці звыш 25 верстаў ад чыгуначных станцiяў) належачы за кожную пасылку збор водлуг вагі павялічваецца на 10%.

г) Забясьпечаны збор за каштоўныя пасылкі—з сумы, абвешчанай каштоўнасьці спаганяецца у тэй жа велічыні, як і за каштоўныя лісты па сапраўднай таксе і пры тым жа мінімуме.

Гранічная сума абвешчанае каштоўнасьці—50.000 р.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 108 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 11 траўня 1924 г.

## 185. Аб з'іначаньні рэдакцыі увагі да арт 2 падзелу І пастановы СНК Саюзу ССР ад 15 красавіка 1924 г. аб разьмяркаваньні аблігацыяў 2 дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г. у абавязковым парадку.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Увагу да арт. 2 падзелу І пастановы СНК Саюзу ССР ад 15 красавіка 1924 г. аб разьмяркаваньні аблігацыяў 2 дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г. у абавязковым парадку (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 4, арт. 139) чытаць у наступнай рэдакцыі:

„Плацельшчыкі, дзеля якіх палова паўгадовага окладу прыбытковага падатку за другое акладное паўгодзьдзе складае меньш 5 (пяці) рублёў, ўносяць ў скарбніцу народнага камісарыяту грашовых справаў не пазьней 15 чэрвеня суму, якая б раўнялася палове аснаўнога паўгадовага акладу падатку, пад часовы квіток. Выплата рэшты каштоўнасьці аблігацыяў робіцца не пазьней 15 ліпеня".

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

10 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 186. Аб з'іначаньні і адмене некаторых ільготных праездных тарыфаў.

У адмену пастановы Савету Працы і Абароны РСФСР ад 11 лістападу 1922 г. і 22 сакавіка 1923 г. і для з'іначаньня пастановаў Савету Народных Камісараў РСФСР ад 27 красавіка 1922 г., 14 чэрвеня 1922 г. і пастановаў Савету Працы і Абароны РСФСР ад 30 сьнежня 1922 г. (Збор. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 66),—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Ільготны тарыф на праезд ваенна-служачых, чырвонаармейцаў і ваенмораў паміж ст.ст. Оравіенбаўм і Ленінград са скідкай у 75%—адмяніць.

**2.** Дарэмны праезд на канікулы студэнтаў—стыпэндыятаў рабочых факультэтаў і студэнтаў, камандыраваных у вышэйшыя навуковыя установы партыйнымі арганізацыямі, а роўна дарэмны правоз іх багажу—замяніць льготным тарыфам у 50%.

Увага. Установлены у гэтым артыкулу ільготны тарыф пашыраецца і на студэнтаў камуністычных вышэйшах навуковых установаў.

**3.** Замяніць ільготны тарыф на праезд контыгэнтаў народнага камісарыяту працы са скідкай у 50% ільготным тарыфам са скідкаю у 25%.

**4.** Дарэмны праезд студэнтаў вышэйшых навуковых установаў і слухачоў рабочых факультэтаў, камандзіруемых на практыку, замяніць льготным тарыфам са скідкай у 50%.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

10 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

**187. Аб працягненьні тэрміну рэгістрацыі мясцовых трэстаў.**

Дзеля з'іначаньня арт. 49 дэкрэту СНК Саюзу ССР ад 17 ліпеня 1923 г. аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстах), знаходзячыхся у упраўленьні мясцовых органаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 1, арт. 29), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Даць вышэйшаму савэту народнае гаспадаркі саюзных рэспублік права у асобных выпадках працягваць тэрмін, устаноўлены у арт. 49 названага дэкрэту для рэгістрацыі істнуючых мясцовых трэстаў, але не далей як да 1 жніўня 1924 г.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
10 траўня 1924 г. Масква — Крэмль.

**188. Аб скасаваньні Арлоўскае акругі связі.**

Для з'іначаньня арт. 8 пастановы Прэзыдыуму Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ад 7 верасьня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 58, арт. 730) аб з'іначаньнях у упраўленьні народнай сувязьзю, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Арлоўскую акругу сувязі скасаваць. Пачтова-тэлеграфныя установы Арлоўскае і Курскае губэрняў аддаць пад упраўленьне Варонескае акругі сувязі.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
10 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

**189. Аб замене часовых квіткоў па падпісцы на першую выйграшную пазыку аблігацыямі другое выйгрышнае пазыкі.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР выдаваць перадплатнікам 1 дзяржаўнае 6%-нае выйгрышнае пазыкі, ўзамен адтрыманых імі пры падпісцы часовых квіткоў, аблігацыі 2 дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г. на паказаную у квітках номінальную суму аплачаных па падпісцы аблігацыяў першае выйгрышнае пазыкі.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
10 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

**190. Аб ануліраваньні прэтэнзіяў за пачтовыя адпраўкі, паданыя на почту да 10 жніўня 1923 г.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Ануліраваць усе прэтэнзіі і іскі да народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў за ўсякага роду забясьпечаныя пачтовыя адпраўкі з абвешчанай у савецкіх грашовых знаках каштоўнасьцю і выказаныя у савецкіх грашовых знаках пачтовыя пераводы, пададзеныя на почту да 10 жніўня 1923 г., г. е. да дня агалашэньня правілаў аб адпаведнасьці пачтова-тэлеграфнага ведамства за унутраныя пачтовыя адпраўкі ад 17 ліпеня 1923 году (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 4, арт. 91).

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
13 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**191. Правілы аб парадку ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 7 сакавіка 1924 г. аб зьмяшчэньні рэзэр'уных і запасных капіталаў дзяржаўных прадпрыемстваў у дзяржаўныя і гарантырованыя ўрадам процантныя паперы.**

На падставе арт. 5 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 7 сакавіка 1924 г. аб зьмяшчэньні рэзэр'уных і запасных капіталаў дзяржаўных прадпрыемстваў у дзяржаўныя і гарантыраваныя ўрадам процантныя паперы (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт 72), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Усе дзяржаўныя установы і прадпрыемствы агульнасаюзнага, рэспубліканскага і мясцовага значаньня, не знаходзячыяся на дзяржаўным бюджэце і маючыя, згодка сваім статутам, запасныя і рэзэр'ўныя капіталы, у тым ліку прамысловыя прадпрыемствы (трэсты), гандлёвыя прадпрыемствы (сындыкаты, таргі і г. д.), сельска-гаспадарчыя, транспартныя і будаўнічыя прадпрыемствы і прадпрыемствы па выдавецтву і кніжнаму гандлю, крэдытовыя і ашчадныя установы, забясьпечныя установы (галоўнае кіраўніцтва дзяржаўнае забясьпекі, упраўленьня социяльнае забясьпекі), а так сама зьмешаныя акцыянэрныя таварыствы з перавагаю дзяржаўнага капіталу, у якіх фактычна ня прымае удзел замежны капітал, павінны зьмясьціць ня меньш 60% сваіх запасных і рэзэр'ўных капіталаў у дзяржаўныя і гарантыраваныя ўрадам процантныя паперы.

Увага 1. У паасобнасьці, пад дзейнасьць пастановы ЦВК і СНК ад 7 сакавіка 1924 г. падпадаюць:

а) запасны капітал і рэзэр'ў прэміяў па забясьпецы жыцьцья—галоўнага кіраўніцтва дзяржаўнае забясьпекі,

б) рэзэр'ўныя капіталы прамысловых, гандлёвых і

інш. прадпрыемстваў, памянёных у арт. 1, а так сама памянёных у тым жа артыкулу акцыянэрных таварыстваў.

Увага 2. а) Запасныя капіталы дзяржаўнага банку, прамысловага банку і расейскага камэрчэскага банку, рэзэр'ў прэміяў па забясьпецы маемасьці і асобны рэзэр'ўны капітал галоўнага кіраўніцтва дзяржаўнае забясьпекі, а роўна капіталы адмысловага назначэньня памянёных у арт. 1 установаў і прадпрыемстваў, не падлегаюць дзейнасьці пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 7 сакавіка 1924 году.

б) Не падлягаюць дзейнасьці так сама запасныя і рэзэр'ўныя капіталы прадпрыемстваў камунальнага характару.

**2.** Народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР агалашае кожныя 6 месяцоў зацьверджаны СПА сьпіс папераў, у якія павінны быць зьмешчаны паказаныя вышэй капіталы, а роўна праз пад'уладныя яму органы наглядае за выпаўненьнем дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі ускладваемага на іх законам абавязку па хаваньню установаленай часткі капіталаў у %% паперах і вядзець учот зьмешчаных у гэтыя паперы сумаў.

У межах агалашаемага народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР сьпісу, установы і прадпрыемствы могуць зьмешчаць паказаныя у арт. 1 капіталы у тыя ці іншыя %% паперы па свайму погляду. Процантныя паперы набываюцца у скарбніцах народнага камісарыяту грашовых справаў, альбо у установах, у якіх рэалізацыя процантных папераў робіцца водлуг даручэньня ці з дазволу народнага камісарыяту грашовых справаў.

**3.** Па агалашэньні паказанага у арт. 2 сьпісу процантных папераў, падлягаючыя прадпрыемствы і установы падаюць у органы народнага камісарыяту грашовых справаў асобныя заявы аб складзе належачых ім капіталаў, пры чым установы і прадпрыемствы агульнасаюзнага значаньня накіроўваюць гэтыя заявы у валютнае упраўленьне народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, установы і прадпрыемствы рэспубліканскага значаньня—у валютнае упраўленьне народнага камісарыяту грашовых спваваў адпаведнае рэспублікі, а мясцовыя установы і прадпрыемствы—у падлягаючыя губэрскія і краінныя грашовыя аддзелы ці у народны камісарыят грашовых справаў аўтономных рэспублік, дзе ён ёсьць. Падаваемыя заявы павінны быць наўперад візыраваны тым органам, у непасрэдным веданьні якога знаходзіцца гэтая установа або прадпрыемства.

Да заявы дадаюцца апраўдваючыя паведамляемыя веды дакуманты, як: зацьверджаны баланс і пастанова аб разьмяркаваньні прыбыткаў, а так сама статут ці палажэньне, рэгуліруючыя дзейнасьць установы або прадпрыемства.

**4.** У месячны тэрмін з дня зьяўленьня у мясцовай прэсе памянёнае у арт. 2 абвесткі народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР са сьпісам процантных папераў, усе установы і прадпрыемствы, якіх гэта абвестка датыркаецца, павінны зьмясьціць устаноўленую законам частку сваіх капіталаў па апошнему зацьверджанаму балянсу у паказаныя у сьпісу процантныя паперы.

Аб адбыўшымся здабыцьці процантных папераў установа ці прадпрыемства паведамляе той орган народнага камісарыяту грашовых справаў, да якога яно накіравала заяву, прадугледжаную арт. 3 гэтых правілаў.

**5.** У далейшым кожная з паказаных вышэй установаў і прадпрыемстваў, водлуг павялічэньня сваіх рэзэр'ўных і запасных капіталаў, павінна парадкам, паказамым у арт. арт. 3 і 4 гэтых правілаў, дадаткова набываць на адпаведную суму процантныя паперы у працягу месячнага тэрміну з дня зробленага у устаноўленым законам парадку адлічэньня прыбыткаў у рэзэр'ўны і запасны капітал.

**6.** У выпадку, калі б з прычыны якіх-небудзь выключных абставінаў, прадпісваемае законам набыцьце папераў у устаноўлены тэрмін здалося дзеля гэтага прадпрыемства ці установы немагчымым, або магло б зрабіць яму вялікую матар'яльную страту, народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР і народным камісарыятам грашовых справаў саюзных рэспублік, водлуг належнасьці, даецца права рабіць адтэрмінаваньне выпаўненьня гэтае опэрацыі на час ня больш 3 месяцаў.

**7.** Адчужэньне, заклад і іншыя выгляды загадваньня процантнымі паперамі, у якія зьмешчаны рэзэр'ўныя і запасныя капіталы дзяржаўных прадпрыемстваў і установаў, робяцца імі з абавязковым паведамленьнем аб тым падлягаючага органа народнага камісарыяту грашовых справаў.

**8.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР і народным камісарыятам грашовых справаў саюзных рэспублік, водлуг належнасьці, даецца права фактычнага кантроля прысутнасьці процантных папераў, на якія заменены, згодна пастановы Савету Народных Камісараў ад 7 сакавіка 1924 г., запасныя і рэзэр'ўныя капіталы дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў.

**9.** У выпадку неабходнасьці зьменьшаньня, у устаноўленым законам або статутам парадку, рэзэр'ўнага або запаснага капіталаў, прадпрыемству даецца права рэалізаваць лішнюю, звыш 60% агульнае сумы капіталаў, колькасьць процантных папераў праз продажу ці аддачу народнаму камісарыяту грашовых справаў, які у гэтым апошнім выпадку павінен аплаціць іх па назоўнай каштоўнасьці з учотам бягучых процантаў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* Л. Каменеў.

*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* І. Хлоплянкін.

11 красавіка 1924 г. Масква - Крэмль.

Агалошана у № 105 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 10 траўня 1924 г.



Главлит № 19.050. Тираж 1.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий" Издательства „Красная Новь". Пименовская, 1/16.